Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 48 (4797) 5 снежня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку РСФСР Галіну Польскіх. «На беларускай зямлі Вас ведаюць і цэняць як выдатную актрысу і чакаюць Вашых новых работ», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Першы ў Беларусі помнік Максіму Танку адкрыюць сёння ў Мядзеле на плошчы Шаранговіча. Бронзавую фігуру паэта ў поўны рост усталююць на гранітным пастаменце вышынёй у адзін метр. Непадалёк размесціцца валун з картушам у выглядзе раскрытай кнігі, дзе будуць выбіты радкі з верша Максіма Танка: «Ёсць адна песня песняў — пра Радзіму». Помнік створаны паводле праекта скульптараў Івана Міско і Аляксандра Фінскага ды архітэктара Армена Сардарава. На адкрыцці чакаюцца прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

✔ Эстафету акцыі «Культурная сталіца Беларусі» 12 снежня Гродна перадасць наступнаму гораду-ўладальніку звання — Брэсту. Падчас урачыстага фінальнага мерапрыемства, якое адбудзецца ў абласным драматычным тэатры, прысутныя здзейсняць «падарожжа» па галоўных творчых падзеях гэтага года.

✔ Саліст Вялікага тэатра Беларусі Павел Пятроў удастоены ІІ прэміі міжнароднага конкурсу выканаўцаў італьянскай оперы *Competizione dell Opera*, які прайшоў у Ташкенце.

✔ Вучэбны кабінет сербскай філалогіі ўрачыста адкрыты на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Плануецца, што тут будуць ладзіцца сустрэчы з прадстаўнікамі сербскай інтэлігенцыі, семінары і канферэнцыі, а таксама навуковыя даследаванні па праблемах мовы, культуры і гісторыі Сербіі.

✔ Мінскі мастак Руслан Вашкевіч прадстаўляе ў гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў маштабны праект «Ідзі і глядзі», прысвечаны феномену зроку. На працягу двух месяцаў запланаваны паказы тэматычнага кіно, сустрэчы з мастацтвазнаўцамі, дзеячамі мастацтва.





Невядомыя лісты Танка 7


Крытык у аб'ектыве 9


Беларусь + Кітай = пераклады 15


Усход — справа тонкая 16


# Коласаваму Дому — 55 гадоў!

Фота Кастуся Дробава. Калаж Віктара Калініна



Чытайце на стар. 8 ▶

# Тэатральныя лаўры

**Уладальнікаў узнагарод III Рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія» абвясцілі 30 лістапада на ўрачыстай цырымоніі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.**

Па новых правілах конкурсу, драматычныя, музычныя і лялечныя спектаклі ацэньваліся асобна трыма профільнымі складамі журы. Так, лепшым спектаклем тэатра драмы была названа трагікамедыя «Аракул?..» паводле п'есы Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал», якую паставіў народны артыст Беларусі Барыс Луцэнка (Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага).

Лепшым драматычным акцёрам стаў малады артыст Раман Салаўёў, які сыграў ролю Сашы Савельева ў пастаноўцы «Пахавайце мяне за плінтусам» Валерыя Анісенкі (віцебскі Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа) па матывах аднайменнай аповесці Паўла Санаева.

Саўлюс Варнас, што паставіў спектакль «Фрэкен Жулі» А. Стрындберга разам з акцёрамі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, быў прызнаны лепшым рэжысёрам спектакля тэатра драмы.

У намінацыі «Лепшы спектакль музычнага тэатра» альтэрнатывы на лаўры лепшага не было, і ўзнагарода дасталася мюзіклу «Соф'я Гальшанская» кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча (Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр). Антон Заянчкоўскі за выкананне партыі Ягайлы ў гэтым спектаклі атрымаў званне «Лепшая акцёрская праца ў спектаклі музычнага тэатра». Узнагарода «Лепшая рэжысёрская праца ў спектаклі музычнага тэатра» ўручана Міхаілу Кавальчыку, мастаку-пастаноўшчыку мюзікла.

Спектакль «Ладдзя роспачы», пастаўлены рэжысёрам Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксеем Ляляўскім па аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча, журы прызнала лепшай пастаноўкай лялечнага тэатра ў 2014 годзе. Гэтая праца, а таксама пастаноўка «Самазванец» па Аляксандры Пушкіне (Брэсцкі дзяржаўны тэатр лялек) прынеслі Ляляўскаму званне лепшага рэжысёра сярод тэатра лялек (ужо другое ў межах Нацыянальнай тэатральнай прэміі).

Дзмітрый Рачкоўскі, які выканаў ролю Гервасія Выліваха («Ладдзя роспачы»), і Уладзімір Цевасян у вобразе Барыса Гадунова («Самазванец») падзялілі паміж сабой лаўры лепшых акцёраў лялечных тэатраў. За гэтыя два спектаклі лепшым мастаком-пастаноўшчыкам журы назвала Валерыя Рачкоўскага (пасмяротна).

Асобна члены журы азначылі тэатральныя работы для дзяцей. У прыватнасці, лепшым дзіцячым спектаклем названа пастаноўка рэжысёра Драматычнага тэатра беларускай арміі Марыны Дударавай «Снежная каралева», напісаная Аляксеем Дударавым па матывах аднайменнай казкі Ганса Хрысціяна Андэрсэна. Выканаўца галоўнай ролі ў гэтым спектаклі, Марына Дзянісава, стала лепшай актрысай сярод спектакляў для дзяцей.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Памяць пра Паэта



Фота Наталлі Асмола

*Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Браніслаў Зубкоўскі — ініцыятар многіх добрых спраў па ўшанаванні памяці Якуба Коласа на Пухавіччыне.*

**У Пухавіцкім раёне ўсталявана новая мемарыяльная дошка ў гонар народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.**

Гэтым разам — на будынку Пухавіцкай СШ. Па традыцыі ў раёне штогод праводзяцца Коласаўскія чытанні. Іх ініцыятар — дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. У 1930 — 1950-я гады Якуб Колас летаваў у пухавіцкіх вёсках. Перад самай вайною збіраўся будаваць у адным з тутэйшых паселішчаў дачу. Нават драўніну завёз. Ды ўсе планы парушыла вайна…

І хаця ў Пухавічах (вёска за 7 кіламетраў ад райцэнтра — Мар'інай Горкі, па дарозе на Бабруйск) пісьменнік стала не жыў, у старадаўнім мястэчку яго і цяпер добра памятаюць. Па-першае, у свае месцы прытулку — Балачанку, Падбярэжжа, Беразянку — Колас якраз праз Пухавічы і праязджаў, неадноўчы тут спыняўся. Па-другое, у мястэчку і бліжніх паселішчах жывуць яшчэ людзі, якія бачылі на Пухавіччыне аўтара «Новай зямлі», дзеці, унукі выпадковых знаёмцаў і добрых вясковых сяброў дзядзькі Коласа.

У свой час шмат для коласаўскай мемарыялізацыі зрабіў мясцовы мар'інагорскі настаўнік Браніслаў Зубкоўскі. Ён разам з малодшым сынам паэта — Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам, пісьменнікам Алесем Камароўскім прыняў удзел у адкрыцці дошкі, выступіў перад вучнямі і настаўнікамі. Браніслаў Аляксандравіч — аўтар некалькіх дзясяткаў апавяданняў пра повязь Коласа з Пухавіччынай. Гэтыя творы адрасаваны дзіцячаму чытачу, выходзілі ў зборніках, змяшчаліся ў перыёдыцы. Быў час, калі менавіта дзякуючы ініцыятыве Браніслава Зубкоўскага на Пухавіччыне ўсталявалі памятныя камяні ў тых мясцінах, дзе пабываў народны паэт Беларусі. Настаўнік-краязнаўца арганізоўваў экскурсіі да коласаўскіх вёсак, выступаў у друку з запісамі сведчанняў сучаснікаў паэта, тых людзей, якія сустракаліся з геніем беларускага мастацкага слова.

Дарэчы, у Пухавіцкай СШ свая літаратурная гісторыя. Тут вучыліся пісьменнікі Уладзімір Ляўданскі, Іван Падбярэжскі, Вольга Савасцюк, акцёр-купалавец Аляксандр Лабуш. Настаўнікам працаваў у Пухавічах Алесь Пальчэўскі.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Прынятыя ў СПБ



**Лілія Віктараўна МЯЛЕШКА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 17 кастрычніка 1948 года ў г. Клецку Мінскай вобласці. Скончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Працавала ў Клецкім ПТВ-206, сярэдняй школе № 1 г. Клецка, была старшынёй Клецкага раённага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. Удзельніца абласнога народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца». Аўтар паэтычных зборнікаў «Зялёная зорка» (Мінск, 2008), «Промні ў кронах» (Клецк, 2008), «Белая яхта» (Клецк, 2008), «У свеце сувязей часовых» (Клецк, 2008).



**Таццяна Анатольеўна ДЗЕМІДОВІЧ**

*Секцыя прозы*

Нарадзілася 13 лютага 1979 года ў г. Брэсце. Скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Працавала карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва «Интерфакс-Запад», пазаштатным карэспандэнтам «Брестской газеты». Цяпер індывідуальны прадпрымальнік. Укладальніца рэгіянальных літаратурных альманахаў «Своя стыхія 2008» і «Своя стыхія 2009», калектыўнага зборніка твораў берасцейскіх аўтараў для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Карусель» (2010), калектыўнага зборніка паэзіі і прозы «Сила слабости» (2013). Аўтар шматлікіх публікацый у літаратурнай перыёдыцы, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных конкурсаў.



**Леанід Юр'евіч СЕВЕР**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 11 чэрвеня 1959 года ў г. Таганрогу Растоўскай вобласці Расіі. Скончыў Рэчыцкае ПТВ-86 нафтавікоў. Працаваў на Гомельскім радыёзаводзе, у раёне Крайняй Поўначы, у Вытворчым аб'яднанні «Беларуснафта», пасля — дырэктарам ТАА «Югстройресурс» (г. Таганрог). Цяпер — дырэктар ТАА «Энергостройсервис» (г. Таганрог). Аўтар паэтычных зборнікаў «Случайный прохожий» (2010), «Дождю навстречу, грусти вопреки» (2010) і «Люблю рассветы больше, чем закаты…» (2012). Укладальнік і адзін з перакладчыкаў беларуска-руска-ўкраінскага зборніка вершаў і паэтычных перакладаў «Крылья надежды» (2012). Член Саюза пісьменнікаў Дона і Саюза пісьменнікаў Расіі.

# Сіманаву пакланіцца

**Міжнародныя Сіманаўскія чытанні — культурная традыцыя Магілёўшчыны. Упершыню яны адбыліся ў 1980-м, праз год пасля смерці Канстанціна Сіманава.**

Сіманаўскія чытанні звязаны з падзеямі пад Магілёвам, на Буйніцкім полі, на пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Знаходзячыся ў акружэнні, савецкія воіны ў жорсткіх баях утрымлівалі Магілёў («Дняпроўскі рубеж») да канца ліпеня 1941-га. Пра бой на Буйніцкім полі 12 ліпеня 1941 года распавёў у сваіх публікацыях ваенны карэспандэнт і пісьменнік Канстанцін Сіманаў.

У дзень нараджэння Канстанціна Сіманава, 28 лістапада, у гарадской ратушы адбылося пасяджэнне «круглага стала». Пра жыццё пісьменніка і значэнне яго творчасці размаўлялі пісьменнікі з Беларусі і Расіі, грамадскія дзеячы, журналісты, ветэраны вайны, гісторыкі. На наступны дзень расійскія і беларускія літаратары наведалі Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова і Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання.

Да сёлетніх літаратурных чытанняў Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ і Магілёўскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» прымеркавалі Міжнародны літаратурны конкурс на лепшыя творы паэзіі і малой прозы, прысвечаны памяці К. Сіманава і 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У конкурсе, які праходзіў з 5 жніўня па 20 лістапада, бралі ўдзел звыш чатырохсот паэтаў і празаікаў. Сярод пераможцаў — і грамадзяне Расійскай Федэрацыі: паэты Алег Дараган, Мікалай Чапурных, празаік Уладзімір Каралёў, якія сёлета разам з іншымі расійскімі літаратарамі прыехалі на Сіманаўскія чытанні; паэт і празаік Яўгеній Гусеў, паэтэса Тамара Патапава. У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна ва ўрачыстай абстаноўцы пераможцы атрымалі ўзнагароды — дыпломы і кнігі ад Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі. Акрамя таго, удзельнікі чытанняў наведалі мемарыяльны комплекс «Буйніцкае поле» і ўсклалі кветкі да камяня К. Сіманава.

**Уладзімір ДУКТАЎ, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ**

# Тэатральныя лаўры

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

А вось званне лепшага рэжысёра дзіцячай пастаноўкі атрымаў Аляксандр Янушкевіч з Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» — за спектакль «Шматкі па закуточках» па Рыгоры Осцеры.

Безальтэрнатыўны пераможца ў намінацыі «Лепшы спектакль балета» — «Вітаўт» Вячаслава Кузняцова Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Рэспублікі Беларусь, ён жа атрымаў і тытул. Званне «Лепшая акцёрская праца ў спектаклі балета» дасталася Людміле Хітровай, а «Лепшая праца балетмайстра ў спектаклі балета» — Юрыю Траяну. Балет «Вітаўт» В. Кузняцова стаў яшчэ пераможцам і ў намінацыі «Лепшая сучасная беларуская пастаноўка», хаця прэтэндэнтаў на гэты тытул было некалькі.

Спектакль Вялікага тэатра «Лятучы галандзец» Рыхарда Вагнера быў названы «Лепшым оперным спектаклем». Узнагароду «Лепшая акцёрская праца ў спектаклі оперы» атрымаў Станіслаў Трыфанаў, а «Лепшая рэжысёрская праца ў спектаклі оперы» — Ханс-Ёахім Фрай.

ААТ «Белзнешэканамбанк» стаў уладальнікам першай у гісторыі Нацыянальнай тэатральнай прэміі ўзнагароды «Мецэнат тэатра».

Эфектным завяршэннем вечара стала абвяшчэнне ўладальніка ўзнагароды «За ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва». На сцэну Купалаўскага выехаў аўтамабіль «Шэўрале дэ Люкс» 1937 года, які належаў Янку Купалу. З яго выйшла народная артыстка Беларусі Наталля Гайда, якой намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік уручыў узнагароду.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Пра людзей, гісторыю, культуру

Новы, сёмы, нумар часопіса «Белая Вежа» змяшчае нарысы пра выбітных юбіляраў, з дня нараджэння якіх споўнілася 200 гадоў: класіка рускай літаратуры Міхаіла Лермантава ды першага беларускага дыпламата Іосіфа Гашкевіча (ведаў 13 еўрапейскіх ды ўсходніх моў і спрыяў распаўсюджванню асветы ў Азіі).

Пра І. Гашкевіча, дарэчы, згадвае і пасол Японіі ў Рэспубліцы Беларусь Сігэхіра Міморы, гутарка з якім надрукавана ў «БВ». Цікавасць выклікае з'яўленне на старонках выдання першага беларускага рамана Ядвігіна Ш. «Золата» — у аснову яго пакладзены дэтэктыўна-прыгодніцкі сюжэт. На рускую мову твор пераклаў прафесар Іван Саверчанка.

З падборкай новых апавяданняў, напісаных падчас паездак па Беларусі і Расіі, выступае Міхась Пазнякоў. Малады маскоўскі празаік Андрэй Цімафееў дэбютуе рамантычным апавяданнем «Кацюша».

«Дарогаю муз, дарогаю Бога» — так названа прадмова да цыкла вершаў Міхаіла Шэлехава. Тонкім лірыкам паўстае Уладзімір Пучкоў з г. Уладзіміра. Цёплае слова пра яго, лаўрэата першай прэміі сёлетняга II Міжнароднага літаратурнага Цютчаўскага конкурсу «Трыснёг, які мысліць» («Мыслящий тростник»), належыць пяру паэтэсы Таццяны Шпартавай. Сяргей Саколін прэзентуе свае гумарыстычныя байкі.

У раздзеле «Навука» акадэмік Яўген Бабосаў дзеліцца ўспамінамі пра сяброўства з патрыярхам філасофіі Вячаславам Сцёпіным, які прайшоў шлях ад выкладчыка да вучонага з сусветным імем. Тут можна пазнаёміцца з роздумам Вячаслава Сямёнавіча: «Чалавечае пазнанне і культура». Член-карэспандэнт НАНБ Уладзімір Бабкоў у артыкуле «Жыць сваім розумам» аналізуе практыку аптымізацыі гуманітарнай адукацыі. Дырэктар Інстытута сацыялогіі Ігар Катляроў прадстаўляе інфармацыю пра жыццё грамадзян («Беларусь паміж мінулым і будучым»), карысную як для навуковых структур, так і для органаў дзяржаўнага кіравання. А генеральны дырэктар Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Алег Сільвановіч распавядае пра патрыятызм у айчынным кіно.

Паходжанне прозвішчаў раскрывае ў сваім артыкуле даследчык і пісьменнік Іван Ярашэвіч. Матэрыял дапаможа тым, хто вывучае гісторыю сям'і ды рупіцца пра складанне радаводу.

**Уладзімір ВЯЛІЧКА, в. а. галоўнага рэдактара часопіса «Белая Вежа»**

# Сэрца восені

Колькі колераў у восені, дакладна не ведае ніхто. Але з упэўненасцю можна сцвярджаць, што адна з самых загадкавых пор года прасякнута непаўторнасцю. Ці ёсць у яе сэрца? Канечне. Трапяткое, узнёслае — і б'ецца яно мацней за ўсё, бадай, на Лунінеччыне.

Лунінская восень шчодрая на знаёмствы і сустрэчы. Ні з чым не параўнальнае пачуццё хвалявання і радасці, калі чытаеш свае вершы, а ў зале — вядомыя майстры слова: першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч, паэт Казімір Камейша, крытык Алесь Марціновіч, сёлетнія лаўрэаты літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка — Анатоль Шушко і Анатоль Брытун, галоўныя рэдактары часопісаў «Полымя» і «Маладосць» — Алесь Бадак ды Святлана Дзянісава.

Атрымліваць узнагароды, чуць добрыя словы заўсёды прыемна, але ж гэта толькі першы крок. А каб зрабіць другі, трэці — трэба працаваць.

**Алёна ПАПКО**

# Урок творчасці

Творчая сустрэча кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў Беларусі з дэлегацыяй старшакласнікаў і настаўнікаў сярэдняй школы № 3 г. Дзятлава адбылася ў Мемарыяльнай зале пісьменнікаў Беларусі сталічнага Дома літаратара.

Мерапрыемства прайшло ў межах тыдня беларускай мовы. Перад гасцямі выступілі першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, сакратар СПБ Георгій Марчук, старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў. Адбыўся своеасаблівы ўрок роднай мовы і літаратуры, урок творчасці. Выступленні вядомых пісьменнікаў тычыліся не толькі сучаснага літаратурнага працэсу, работы з юнымі літаратарамі краіны, але і выхавання любові да роднай зямлі, людзей, нашай гісторыі, культуры, мовы і літаратуры.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# «Бярозцы» — 90!

Сёлета ў снежні часопіс «Бярозка» святкуе 90-гадовы юбілей. Адметна, што са студзеня 2015-га выданне зноў стане самастойным, каляровым і, спадзяёмся, вельмі цікавым для юных чытачоў.

Нямногія перыядычныя выданні, тым больш для юных чытачоў, могуць пахваліцца такім доўгім жыццём. Праўда, «Бярозкай» аднолены пасля вайны часопіс стаў называцца толькі з чэрвеня 1945 года (спачатку выданне мела назву «Беларускі піянер», потым, перад вайной, — «Іскры Ільіча»).

«Бярозка» — адзіны ў нашай краіне беларускамоўны часопіс для падлеткаў. Рэдакцыя выдання робіць усё для таго, каб часопіс быў не толькі карысным і змястоўным, але і цікавым — як для вучняў, так і для іх бацькоў ды настаўнікаў.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# Святло агменю

Юбілейная вечарына літаратурнага аб'яднання «Агмень» «Жыве паэзіі радок» прайшла ў Палацы культуры г. Маладзечна. Юбіляраў віншавалі госці: вядучы спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінаблвыканкама Іна Ахполава, галоўны рэдактар «Маладзечанскай газеты» Аляксандр Лазоўскі, намеснік дырэктара Палаца культуры г. Маладзечна Галіна Акулёнак, паэт Рагнед Малахоўскі.

Дзесяць год у Палац культуры прыходзяць людзі, неабыякавыя да паэтычнага слова: стваральніца «Агменю» Ларыса Сысун, Марыя і Павел Бельскія, Ганна Еляцкова, Сяргей Томкавіч, Валерый Хіхіч ды іншыя творцы.

Кіруе літаб'яднаннем паэтэса, кампазітар, выканаўца, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат прэміі «Залаты Купідон» у намінацыі «Песенны жанр» Таццяна Атрошанка. Яна аўтар кнігі паэзіі «Не я» і музычнага альбома «Унутры вялізнага горада».

За час існавання літаб'яднання гледачы сустрэліся з паэтамі Навумам Гальпяровічам, Васілём Жуковічам, Міколам Шабовічам, Васілём Шырко, Таццянай Сівец, Рагнедам Малахоўскім, Кастусём Цыбульскім, Дзмітрыем Пятровічам, гуртом «Рэха», бардамі Таццянай Беланогай, Алесем Камоцкім, Мікітам Найдзёнавым і многімі іншымі.

Паэты «Агменю» ўдзельнічаюць у праекце па захаванні культурнай спадчыны кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, наведваюць памятныя мясціны як у Беларусі, так і за яе межамі, ладзяць прэзентацыі і творчыя вечары, удзельнічаюць у свяце песні і паэзіі, свяце Беларускага пісьменства, «Дажынках». Юная ўдзельніца «Агменю» Дар'я Атрошанка тройчы прадстаўляла Мінскую вобласць у фінале рэспубліканскага конкурсу «Песня для Еўрабачання», а летась атрымала Гран-пры рэгіянальнага фестывалю «Адна зямля». Зборнік вершаў сяброў літаб'яднання — «Агмень» — выйшаў дзякуючы падтрымцы Палаца культуры г. Маладзечна.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

# Прафесару ад вучняў

Мультымедыйнай бібліятэцы Інстытута журналістыкі БДУ прысвоена імя выбітнага беларускага вучонага Міхаіла Цікоцкага. На ўрачыстай цырымоніі з гэтай нагоды сабраліся выкладчыкі і студэнты навучальнай установы.

Выбітны мовазнаўца і журналіст, дасведчаны выкладчык, шчыры і добразычлівы чалавек, гатовы заўсёды даць параду… Такім памятаюць Міхаіла Яўгенавіча вучні, калегі і сваякі. Прафесар быў прыкметнай постаццю ў асяроддзі журфакаўцаў, зрабіў вялікі ўнёсак у жыццё роднага факультэта. Вучоны па праве лічыцца заснавальнікам беларускай стылістыкі.

Падчас імпрэзы ў Мультымедыйнай бібліятэцы Інстытута журналістыкі прысутныя падзяліліся ўспамінамі пра Міхаіла Цікоцкага, прыгадалі асноўныя падзеі яго біяграфіі. Нарадзіўся ён у сям'і вядомага кампазітара Яўгена Цікоцкага. Прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне, пасля дэмабілізацыі паступіў на факультэт журналістыкі БДУ. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет «Савецкі селянін» і «Калгасная праўда», часопісам «Вожык». На журфаку працаваў з 1953 года.

Жыццё Міхаіла Яўгенавіча было непарыўна звязана з роднай мовай. Прафесар неаднойчы адзначаў, што кожнае беларускае слоўца мае адметную танальнасць, меладычнасць. Яго аўтарству належаць работы па вывучэнні моўных сродкаў твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа ды інш. Акрамя навукі, прафесар захапляўся музыкай і маляваннем.

Госці пазнаёміліся таксама з акварэльнымі работамі вучонага. Супрацоўнікі кніжніцы адкрылі «Кнігу памяці», дзе ў любы час можна пакінуць колькі цёплых радкоў пра Міхаіла Яўгенавіча.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Да новых рыфмаў

**Прэзентацыя зборніка вершаў Марыны Наталіч «Палыновая зорка» адбылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.**

«Палыновая зорка» — першая беларускамоўная паэтычная кніга Марыны Наталіч (сапраўднае імя і прозвішча — Наталля Давыдзенка). Раней з-пад пяра аўтаркі выйшла яшчэ 8 зборнікаў (6 паэтычных і 2 празаічныя) на рускай мове.

Нарадзілася Н. Давыдзенка на Далёкім Усходзе. Скончыла філфак Белдзяржуніверсітэта. Працавала рэдактарам у выдавецтвах «Мастацкая літаратура», «Беларускі кнігазбор» і ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны. Паводле спадарыні Наталлі, яна не перайшла на іншую мову цалкам: у яе жыцці суіснуюць дзве мовы — дзве невычэрпныя крыніцы натхнення.

З выхадам новай кнігі творцу павіншавалі вядучыя імпрэзы Вера Буланда, Алесь Мазанік і Алена Канапацкая, а яшчэ калегі па пяры — паэты Людміла Хейдарава, Антаніна Хатэнка, Анатоль Вярцінскі і Алесь Разанаў. Музычны падарунак для аўтаркі падрыхтавалі паэт і кампазітар Іван Раманчук ды салістка ансамбля «Мінскі гармонік» Галіна Пархімчык. Беларускія народныя песні, запісаныя падчас этнаграфічнай экспедыцыі, выканала студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Марына Пятрова.

**Яна ЯВІЧ**

# Радкі дабрыні і любові

Паэт, празаік, кампазітар Дзмітрый Пятровіч завітаў у сталічную бібліятэку-філіял № 10 імя М. Мінковіча, а таксама ў Цэнтральную дзіцячую бібліятэку імя М. Астроўскага.

На сустрэчу з літаратарамі прыйшлі чытачы кніжніцы і старшакласнікі гімназіі № 34 г. Мінска. Імпрэзу Д. Пятровіч распачаў вершамі са свайго новага зборніка «Адзіноты пажоўклыя дні». Не абмінуў творца ў паэтычных радках і малую радзіму — Заслаўе.

Падчас сустрэчы аўтар распавёў пра выпадкі з жыцця, якія леглі ў аснову апавяданняў са зборніка «Белая жанчына», адказаў на пытанні чытачоў, а яшчэ правёў віктарыну па гісторыі газеты «Звязда».

**Наталля КАРОЛЬ, Людміла ДУБРОЎСКАЯ**

# Лірычна ды сучасна

**Чарговая музычна-паэтычная сустрэча ў межах літаратурнага праекта Мінскага гарадскога аддзялення СПБ «Паэтычны аўторак» адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча.**

Гэтая імпрэза сталася, па сутнасці, размовай-палілогам пра каханне, паэзію і лад жыцця сучаснага чалавека. Удзельнічалі ў шчырай гутарцы айчынныя творцы і навучэнцы лінгвагуманітарнага каледжа пры МДЛУ.

Пісьменніца і вядучая сустрэчы Іна Фралова падкрэсліла: праект створаны для таго, каб людзі звярталі ўвагу на паэзію, знаёміліся з сучаснымі айчыннымі аўтарамі, пранікаліся хараством слова. Адметна, што «Паэтычны аўторак» праходзіць на розных бібліятэчных пляцоўках сталіцы.

Гэтым разам у кніжніцу завіталі бард Аляксей Нежавец, паэтэса і бард Ганна Чумакова, паэты Аксана Ярашонак, Юрый Усціновіч, Анастасія Кузьмічова, Яна Явіч, Вольга Шпакевіч і Янусь Малец. Творцы прадстаўлялі публіцы адно аднаго, а І. Фралова задавала кожнаму з выступоўцаў пытанні.

Загадчыца бібліятэкі Наталля Стрыгельская заўважыла: радасна, што беларускае паэтычнае слова знаходзіць шлях да сэрца чытача і мае жывы водгук.

**Дана ХОДНІЧ**

# Завітаем у гасцёўню

Адкрыццё новай літаратурнай гасцёўні «Сугучча», створанай па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбылося ў сталічнай СШ № 77 з музычным ухілам. У мерапрыемстве прынялі ўдзел старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў, паэтэса Іна Фралова, дырэктар школы Алена Рыбалтоўская, настаўнікі і вучні.

Міхась Пазнякоў пазнаёміў прысутных з дзейнасцю Саюза пісьменнікаў Беларусі, расказаў пра адметнасці работы з юнымі талентамі, акрэсліў асноўныя задачы наваствoранай гасцёўні, прачытаў уласныя вершы, адказаў на пытанні прысутных.

Кожны месяц гасцямі школы будуць літаратары, спевакі, кампазітары. Варта зазначыць, што літаратурная гасцёўня створана ў гэтай навучальнай установе невыпадкова. Тут значная ўвага надаецца вывучэнню роднай мовы, літаратуры, мастацтва, працуюць выдатныя педагогі. Госці перакаканаліся ў гэтым, наведаўшы класы і этнаграфічны музей. Навучэнцы актыўна ўдзельнічаюць і ў гарадскіх літаратурных конкурсах, становяцца яго лаўрэатамі. Вырашана практыкаваць выступленні юных музыкантаў школы на літаратурных святах, якія ладзіць сталічная пісьменніцкая арганізацыя.

**Павел КУЗЬМІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**9 снежня** — *на літаратурна-музычнае свята з удзелам маладых паэтаў, якое адбудзецца ў Палацы культуры аўтазавода (Партызанскі пр-т, 117а). Пачатак у 9:30.*

**9 снежня** — *на свята сучаснай беларускай паэзіі, прысвечанае Максіму Багдановічу, якое пройдзе з удзелам групы сталічных паэтаў у дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**9 снежня** — *на прэзентацыю кнігі Міхася Пазнякова «Спявае жыта» (паэзія і проза). Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**10 снежня** — *на творчы вечар паэтэсы і празаіка Жаны Міланovіч. Імпрэза пройдзе ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (вул. Гікалы, 4). Пачатак у 17:30.*

**11 снежня** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам сучасных пісьменнікаў. Мерапрыемства адбудзецца ў СШ № 13 (вул. Цікоцкага, 57). Пачатак а 13-й гадзіне.*

## Міхась МАМОНЬКА



### Гомель

*Калыска Палесся*
*Бы помнік душы.*
*Між*
*Адвечных лясоў —*
*Як святая*
*Матуліна песня,*
*Радзіміча*
*Покліч з вякоў.*
*Сонца*
*Трымцела ў нетрах,*
*У лужынах*
*Шэрхла святло.*
*У багнах*
*Жыццё ажывала,*
*Пускала карэнні, —*
*З любоўю людскою расло.*
*І Гомель,*
*Крылы ўзняўшы,*
*Ахінуў*
*Дрымучы прастор,*
*І радасна сэрцу*
*Стала:*
*Гомель*
*Узняўся да зор.*
*Заходзь*
*У векавечнасць святую,*
*На вуліцы,*
*Плошчы яго.*
*І ты скажаш:*
*— Беларуса*
*Тут чую,*
*Радзіміча —*
*Сына*
*Роду свайго.*

### Зімою

*Хмаркі над Туравам*
*Кудзеляй вісяць.*
*Вербы над Прыпяццю*
*Ў скрусе маўчаць.*
*Сёння без сонца*
*Светла ў лесе пустым,*
*І над хатамі ўсюды*
*Разносіцца дым.*
*Дзіўная казка*
*Ў душы ажыла:*
*Бачу я тура*
*На кромцы святла!*
*Мне дзевяноста*
*На плечы спаўзло,*
*А дзянёчка такога*
*Яшчэ не было.*


Фота Кастуся Дробава

## Вольга БЯЛОВА



***

*Апошняе слова маё —*
*табе.*
*Апошні світанак.*
*І сонечны ранак.*

*Апошні мой позірк*
*і покліч, і дотык —*
*усё, усё, мой любы,*
*табе.*

*Бяры. Беражы.*
*Усё. Назусім.*
*Перад небам не хлусім.*

***

*Маленькі*
*чырвоны*
*агеньчык.*

*І цемрадзь…*
*І адзінота…*

*Дзе ты,*
*мой адзіны,*
*каханы?*
*Даведацца б,*
*хто ты…*

***

*У восеньскім ранку*
*з акварэльна-дажджовым*
*настроем*
*схаваліся вершы*
*за пабудовамі мегаполісу.*
*Пад палаючым лісцем клёнаў*
*спяць да вясны*
*каляровыя казкі.*
*Цішэй! Не абудзі.*
*Каб не патрапілі*
*ў зімовую сцюжу,*
*не зніклі*
*пад імклівымі нагамі*
*жыхароў сталіцы.*

***

*Срэбныя хвалі,*
*хвалі празрыстыя*
*песцяць, цалуюць*
*далоні мае.*
*Хмаркі плывуць,*
*глядзяцца ў люстэрка.*
*Белыя хмаркі*
*на соннай вадзе.*

### Жаночае сэрца

Алене Багамолавай прысвячаецца

*На далоні Бога —*
*жаночае сэрца,*
*маленькае,*
*безабароннае,*
*бездапаможнае.*
*Малюся горача,*
*Божухна!*
*Уратуй*
*адзіную,*
*светлую,*
*чыстую*
*ў гразкім свеце*
*крынічку*
*празрыстую.*
*Падаруй шчасце*
*сямейна-жаночае,*
*плённа-творчае*
*і звычайнае —*
*чалавечае.*
*Глядзі!*
*Сэрца жанчыны*
*чакае міласці*
*на такой*
*вялікай*
*далоні*
*магутнага Бога.*

### На крылах кахання

*На крылах ночы,*
*на крылах кахання*
*лячу да цябе.*
*Жывыя, не здані,*
*пярэчаць шчасцю,*
*паўсюль перашкоды,*
*атручваюць сэрцы,*
*шукаючы коды*
*ад нашых пачуццяў.*
*Людскія чуткі,*
*наўмысныя плёткі…*
*Вострыць лязо языкоў*
*злыя цёткі.*
*Засціла вочы*
*ім наша радасць.*
*Не спіцца ўночы:*
*людская зайздрасць*
*з'ядае каханне*
*старымі зубамі…*
*Дарую ўсім:*
*Бог з вамі!*
*Бог з вамі…*

*Лячу да цябе*
*на крылах кахання.*

## Тацяна ЦВІРКА



***

*Адзінокая зорка сустрэла ля роднае хаты.*
*Месяц вокам з-за хмары міргнуў*
*і схаваўся: «Прабач».*
*Палыселы каштан у траву скінуў*
*дзетак багата,*
*Прытуліўся галінкаю бэз. Супакоіў:*
*«Не плач!»*
*Вецер злізвае з твару салёныя*
*пацеркі-слёзы.*
*І стаю. Сірата. І шукаю святла у акне.*
*Не гарыць. Цемната. Не таму,*
*што прыехала позна.*
*Не чакаюць. Не стрэнуць… Ні мама,*
*ні тата мяне.*

### Сорак пяць

*Люстэрка падмануць? Наўрад ці выйдзе.*
*Гадзіны. Дні. Гады. Жыццё бяжыць…*
*Не клічу маладосць. Яна не прыйдзе.*
*«Зноў ягадкай» зусім нядрэнна жыць.*
*Глядзець на свет мудрэйшымі вачыма.*
*І роднае плячо аберагаць.*
*І на памылках навучаць дачку і сына.*
*І «для сябе» пакрыху жыць пачаць.*
*Над мітуснёй узняцца асцярожна*
*І азірнуцца. Ёсць што аглядаць.*
*І ўсміхнуцца. Горда. Пераможна.*
*І ціха Богу «дзякуй» прашаптаць.*

***

*Я так баялася гэтай сустрэчы.*
*І вось ты стаіш.*
*Такі непадобны, худы, высокі.*
*Гады асіраці́лі цябе:*
*асыпалі, як лістападаўскі клён, твой чуб,*
*абмянялі на бліскучы метал*
*тваю белазубую ўсмешку,*
*адклалі тонкімі штрыхамі па твары*
*пражытыя дні.*
*Я так баялася гэтай сустрэчы.*
*І вось ты стаіш.*
*Знаёмы і чужы, жаданы і непрыемны,*
*каханы і забыты…*
*Але… Куды ты, куды?*
*Няўжо не заўважыў мяне*
*на гэтым мітуслівым пероне?*
*Няўжо не рашыўся падысці?*
*Скуль мне здагадацца,*
*што бязлітасны час*
*змяніў і мяне*
*канчаткова.*

***

*Падае долу кляновы лісток сірацінай,*
*Чырвань каліны ўлагодзіць трывогу душы,*
*Луг адцвітае — звычайная ў жніўні карціна.*
*Восені подых. Калючы. Халодны. Чужы.*

*Ціха кружляюць сняжынкі*
*з бялюткіх аблокаў.*
*Ружы пад снегам. Іх летам садзіла сама.*
*След пакідаю на сцежцы. Прыгожы. Глыбокі.*
*Я ўжо не тая. І больш не здзіўляе зіма.*

*Дні так бягуць — не зважаеш*
*і нават не лічыш.*
*Зноў занявесіцца груша ля спальні акна.*
*Я не гадаю, калі мяне неба пакліча.*
*Дый без мяне не заблудзіцца,*
*прыйдзе вясна…*

### Да Бога

*Дапамажы! Ў жыццёвым полі*
*Парай, куды мне скіроўваць?*
*Вандруе блудны лёс па волі,*
*Дапамажы яго суняць.*

*Паспачувай! Жыццёвым градам*
*Не сып балюча на шляху.*
*І прычасці людской спагадай,*
*І адвядзі, збаў ад граху!*
*Не пакідай! Знайдзі прыстанне*
*Для неспакойнае душы.*
*Адмовіць не спяшы...*

Алена СТЭЛЬМАХ

# Дуб і крумкач

Як толькі крамяны маладзічок дагледзеў апошні сон, салодка пазяхнуў, пацягнуўся — у празрыстым блакіце маладога неба ўзнік сілуэт крумкача. Ён павольна апісваў круг у адным канцы вёскі, чапляў нябачную пятлю ў другім. Дык хіба гэта дзіва? У любым селішчы «малая авіяцыя» шчыруе зранку да цямна.

На шэравата-млечным досвітку рухавік новага дня заводзіць шматгаласы хор дробных птахаў. Каб справе надаць больш імпэт, высунуўшы са сваіх цераммкоў чорныя з адлівам чапцы, ім падсвістваюць шпакі. «Шпарчэй, вышэй! Дабавіць каленцаў!» — паддаюць яны дыхту ў ранішні канцэрт.

Цыбаты бусел, не вытрымаўшы гвалту, што нарабіла яго пражорлівая дзятва, сігануў з гнязда. Курс узяў на Зінчына балотца, дзе да агульнага ажыўлення далучыліся лупатыя жабы, зладзіўшы хрыпатую пераклічку. Згаладалыя вераб'і шэрай хмаркай павіслі на Яськавай чарэшні. Зараз жа яны яе і аблатошаць! З Якуш-лога падала голас зязюля: «Пра мяне не забудзьцеся. Я тут — ку-ку!»

Адважны пілот — легкакрылы жаўрук — стрымгалоў кінуўся ў сінюю бездань. З зямлі ледзьве прыкметнай кропкай затрапятаў, заліўся срэбным званочкам...

На гэты раз чужынец-крумкач зблытаў усе птушыныя планы. Не, ён нікому нічым не шкодзіў, не ўмешваўся. Лятаў сабе і лятаў. Але разам з ранішнімі кроплямі расы знікла звычайная агульная весялосць. Спудзілася смешная сарока-балаболка, не ведаючы, якую на гэты конт зрабіць абвестку.

Гэтак жа нечакана, як і з'явіўся, крумкач знік з поля зроку. Ва ўсім наваколлі быццам паслабела напружанасць, павеяла палёгкай. Але ж куды падзеўся злавесны нябесны вандроўнік? Ведаючы нораў свайго суродзіча, не магла птушыная грамада пагадзіцца з тым, што зыркаў ён без аніякага намеру, проста так. Непрыемнае адчуванне ад яго «пілатавання» павісла ў летнім паветры, прыпыніла імклівы ўзлёт крылатых чародак у засмужанае неба.

* * *

Крумкач меціў прысесці на разгатую галіну дуба, што падзяляў вёску акурат на дзве палавіны — гару і лог. Але не разлічыў: падсохлыя гучкі не вытрымаюць знянацку абрушанага цяжару звыклага да націску заваёўніка. Крумкач спудлаваў, а таму пачаў адчайна біць дужымі крыламі, бузаваць у густой кроне. Імкнучыся выблытацца, нявольнік напружваўся, каб хоць як-небудзь учапіцца. Як апошні паратунак ён пусціў у ход сваю выпрабаваную зброю — кіпцюры. Ад неспадзяванкі крумкач нарабіў шалёнага лямату. Апамятаўся, калі ўсё ж такі замацаваўся на ніжэйшым, больш надзейным суку.

— Сташ тут, ёлупень стары! Толку ад цябе, замшэлага раскірэкі, аніякага, — няпрошаны госць пачаў з'едліва дапякаць гаспадара. Вочы яго, як куслівыя жукі, гатовы былі ўпіцца ва ўсё жывое. — Спалілі б ужо даўно ў печы, ды, мусіць, цяпла ад цябе як ад зімовага сонца. Хто будзе час на тваё пілаванне марнаваць?

Дуб, з уласцівай яму вытрымкай, пагардліва ўсміхнуўся. За доўгія тры стагоддзі час неадноййчы пакідаў на ім свае адбіткі. Вясковы старажыл пераніёс шмат цяжкіх пакут, стойка прымаў на сябе, даўно ўжо шурпатыя, грудзі, усе ўдары лёсу, вызначанага прыродай менавіта дубу, дзелячы і гора, і радасці з тымі, хто, як і ён, пускаў карані на гэтай зямлі. Яго шкуматалі раз'ятраныя вятры, апякалі жахлівыя маланкі, да апошняй галінкі прабіралі сцюдзёныя дажджы, скоўвала ледзяніца. Ужо толькі таму, што перажыў страшэнную непагадзь, доўгажыхар мог з гонарам глядзець на ачмурэлую птушку.

А тая, увайшоўшы ў азарт, не ведаючы літасці, апантана ішла ў наступленне:

— Як вы, дрэвы, нібы стаўбуны, бессэнсоўна век стаіце на адным месцы? І нікуды вам не зрушыцца! Не зведаць, што адбываецца ў свеце! Не паспрабаваць сапраўдны смак жыцця!

У пацвярджэнне вялікай годнасці свайго высокага палёту крумкач ганарліва залапатаў чорнымі крыламі. «Кр-ура-а!!!» — нібы сам сабе засалютаваў.

* * *

Вячысты дуб-вядун, хоць і абурыўся крумкачоваму нахабству, але прамаўчаў. З глыбіні міжволі пачалі ўсплываць падзеі пеpажытага…

…Спярша паселішча месцілася ў іншым баку. Жылося добра. Вакол хапала жыўнасці ды іншых шчодрых дароў прыроды. Зайздросным такое жыццё стала ворагу. Цёмнай ноччу, калі ўсе спалі, як свечка, успыхнула хата на ўскрайку. Агонь па саламяных стрэхах пабег, быццам па ланцужку. З вар'яцкім крыкам, шалёным гойканнем у ахопленае полымем паселішча ўварваліся ўзброеныя коннікі. Нішчылі ўсё без разбору. На світанні, акрытым чорным туманам, схаваўся ў хмары заплаканы месяц. На былым чалавечым котлішчы, дагараючы, курэла маркотнае папялішча. Хто цудам уцалеў — пачаў шукаць новага прыстанку. Выбралі для жытла месца больш зацішнае — на ўзвышшы, з аднаго боку аддзеленым бурлівай ракой, з другога — агорнутым цямністым лесам.

Перш чым ладзіць жыллё, каб пазначыць абраны пляц, людзі сталі садзіць дрэвы. Там беластаністая бярозка пяшчотна-зялёную хусцінку на плечы накінула. Тут плячысты дубок, нібы салдат, зялянковы шынель апрануў. Пацягнуліся да сонейка стромкія клёнікі, таполі. Расплыўся па гарыстым наваколлі дурманліва-п'янкі водар чаромхі, яго змянялі тонкія пахі белага і сіняга бэзу, кусцістага язміну. Так вясковая вуліца і набыла сваё аблічча. Яна, нібы вяртлявая змейка, пабегла ў свет шукаць уласную долю… Цяпер з тых першынцаў-пасяленцаў застаўся адзін пакручасты дуб.

…Вясна ў той год выдалася зацяжною. Мяцеліца пракудзіла яшчэ ў пачатку сакавіка. Кусаліся маразы. Толькі дым з комінаў, якому не было іншага выйсця, як раўнюткім слупом падпіраць неба, падказваў, дзе схаваліся цёплыя хаты, а дзе снегам прысыпаны лядзяныя гурбы.



А тады, як шуганула па вуліцы паводка, здавалася, бездарожжу не будзе канца. Плыло, бурліла, падскоквала, вірaвала ўсё: і камякі снегу; і скрыгалі лёду, і палена, што не трапіла ў печ, і чыесьці вароты, знесеныя калядоўшчыкамі на стары Новы год…

Калі вада ўсё ж пайшла на спад, людзі, якім надакучылі халады, сачылі за дубам як за вестуном доўгачаканага цяпла. А спагадлівы ветрык-веснавей вяртацца ў родны край ніяк не спяшаўся. Старыя засмучана ківалі галовамі: «Дуб лісця не пускае. Не прыйшла яшчэ пара пшаніцу сеяць».

Раптам нейкая невядомая сіла нібы штурханула дрэва знутры. З нетраў зямлі вырваліся жыватворныя струменьчыкі соку, дабеглі да самай вяршалінкі, якая ўсю зіму марыла дакрануцца маладой лістотай да бела-пушыстага воблачка, у нябеснай сінечы вельмі падобнага да гарэзлівага баранчыка.

На маўклівым дрэве ў адначассе выстралілі набрынялыя пупышкі, і яно ўмомант ажыло. Салодкім болем адгукнулася ў душы волата першая сталая вясна. Ён адчуў яе таямнічасць, калі пад яшчэ клейкаватымі, быццам разнымі лісточкамі, дзенідзе з'явіліся невялічкія гарошынкі-бутоны. Гукі песні ў дубовай кроне ўскалыхвалі паветра, быццам велічны гімн напяваў сам валадар. Шчасцем поўнілася сэрца. Не верыў: няўжо настала нарэшце пара, вартая ўсяго жыцця, — ён стане бацькам?

Бутоны зусім не мелі паху, у адрозненне ад іншых раслін, што апыляюцца насякомымі. Кветкам дуба дастаткова сяброўскага подыху ветру, каб у іх зарадзілася жыццё. Галінкам-весялінкам вельмі падабалася гуляць у даганялкі з мядовым свавольнікам-вятрыскам. Сам дуб прысядаў, ушыркі расстаўляў доўгія плечы-рукі, каб злавіць яго.

Прадаўгаватыя бочачкі жалудоў пачалі апранацца ў зеленаватыя панцыры на пачатку жніўня. У верасні яны сталі больш прыкметнымі. І толькі з надыходам лістапада, калі шапачка-плюска не вытрымала цяжару і першы руды жолуд шпокнуў на зямлю, дуб асэнсаваў, што збыліся яго спадзяванні… Чуў велікан і тое, як неаднойчы людзі, пазіраючы на яго нашчадкаў, прыкмячалі: «Многа жалудоў на дубе — да халоднай зімы». Стоена ўсміхаўся ў калматыя вусы ўслед фурманкам, якія шпарка беглі ў лес па дровы…

Дзеці ад яго, дуба-бацькі, разбрыліся па ўсім свеце. Здаралася, птушкі падхоплівалі жалуды, і аднаму Богу было вядома, дзе яны прыжывуцца. Нярэдка іх збіралі людзі, каб пасадзіць свой дуб-абярог. Памятаў волат, як мясцовы ляснік пагрузіў на воз мех жалудоў, а потым недалёка ад вёскі на месцы высечанага лесу загаманіў дубовы гай…

* * *

Прыціхлы было крумкач страпянуўся, вострай дзюбай з усяе моцы гакнуў па галіне. Гулкае рэха аддалося ў глыбіні дубовага камля. Гугнява крумкнуў. Так, на ўсяляякі выпадак, каб добра ўцяміл, хто тут пуп зямлі. Але ўпэўненасць яго была толькі вонкавай, унутры ўсё трымцела.

— Ты, вяршыцель, ганебную набыў вядомасць. Дрэнная пра цябе ідзе пагалоска, — цяпер ужо не змоўчыў дуб. — Кожны з нас сваю дарогу ведае, і не з тваёй бруднай дзюбай маю сцяжыну пераходзіць.

Не чакаў крумкач такой храбрасці. Яму, каралю крывавых пабоішчаў, атаману жудасных войнаў, нейкая старэча адважылася пярэчыць? Дазволіць ён сябе судзіць?! Сцерпіць такую ганьбу?! Будзе ён, Пан-крумкач, са сваім царом і Богам у галаве, валтузіцца з бязмозглай дзеравячкай?

— Быдляцкае тваё жыццё, — і лістом не ўздрыгнуў мудры волат. — Як ты тут не дзярэш горла, а і медзяка з майго ўбранства не варты. Хіба не агоркла такое быццё самому?

— Лухтак! — спрабаваў трымаць годнасць ваяўнічы крумкач, але непакорны настрой вясковага асілка ўсё ж астудзіў крыху яго пыху.

Дуб няўхільна стаяў на сваім:

— Ты да людзей ляціш і весткі ім нясеш, ад якіх яны цябе цураюцца. Ты там, дзе чалавечыя гора, бяда, пакуты. І чым болей ахвяр, тым ярчэй гарыць твае вочы захопніка, распальваецца апетыт драпежніка. У абмяклым целе яшчэ цепліцца душа, а ты ненажэрна прагнеш свежай крыві. І ты гэта лічыш за шчасце, гэтым пахваляешся? Ты, скажаш, зведаў смак жыцця? І яно ў цябе было салодкім? Не тым сябе цешыш, небарака!

Развярэджаны ўспамінамі, дуб не мог супакоіцца, патрывожаным роем гулі яго думкі:

— Так, я састарэў. Зацягнуліся смугою мае вочы, долу пахіліліся галіны. Бачыш, і ў кроне маёй ужо жоўта-брудных пасмаў удосталь. Кракчу, як стары, што грабецца на чарэнь грэцца. Але я ганаруся сваім узростам. Шчаслівы тым, што ніколі не ведаў адзіноты. І за працяглы мой век ніхто пра мяне ніводнага брыдкага слова не сказаў. Ні адна нават самая маленькая істота (а іх у радні са мною безліч) не паскардзіцца, што я яе пакрыўдзіў. Вунь той бок, асабліва непрывабны, — апечаны. Каб я не падставіў яго, згарэла б суседняя хата ў час нечуванай навальніцы. А тут нараст вытыркае — гэта вайна пакінула свой след. Не пашкадаваў немец патронаў, цэлячыся ў партызана. Чалавек выжыў, нізка схіляў перада мною голаў — дзякаваў, што прыняў на сябе яго смяротныя кулі.

А смеху, жартаў колькі было — усіх не згадаць. Выпівоха ў маім дупле бутэлькі ад жонкі хаваў, ды на саву напароўся. Кара знізу парэпалася ад таго, што свіння з бывадкам сваім чухалася. Прагным пацалункам вясковай моладзі і пераліку не маю. А ўжо прызнанняў у гарачым каханні наслухаўся!..

Але навошта я табе ўсё гэта кажу? Што табе мая праўда?

Дуб, захоплены ўспамінамі, летуценна ўздыхнуў. Толькі цяпер прыкмеціў — крумкача на суку не было.

* * *

Назаўтра ўся вёска ўсхвалявана гаманіла пра тое, што ноччу на полі, дзе пасвіліся ў загарадзі бычкі, ваўкі зарэзалі трох жывёлін. Бачылі, крумкач там мільгануў…



Фота Кастуся Дробава

# Пра вайну і жыццё

**Адразу два раманы найбуйнейшага беларускага празаіка Уладзіміра Гніламёдава — «Валошкі на мяжы» (у выдавецтве «Мастацкая літаратура») і «Вайна» (у «Беларускай навуцы») — выйшлі ў 2014 годзе асобнымі кнігамі. Факт паказальны, і, між іншым, ён сведчыць яшчэ і пра актыўную выдавецкую дзейнасць у нашай краіне, і пра ўвагу вядучых выдавецтваў да твораў, значных для сучаснага літаратурнага працэсу.**

«Валошкі на мяжы» і «Вайна» ўваходзяць у знакаміты раманны цыкл У. Гніламёдава, падзеі якога разгортваюцца ў першай палове ХХ стагоддзя. Гэты адрэзак часу аб'яднаны як героямі, так і месцам дзеяння, і назваць яго можна гістарычным. Не толькі праз прыкметную аддаленасць ад сучаснасці, але і па насычанасці падзеямі глабальнага значэння. Гэты «вялікі час», гістарычны, у творах пісьменніка неад'емны ад часу чалавечай экзістэнцыі, сувымерны біяграфіі індывідуума, яго жыццёваму шляху.

Даследчыкі небеспадстаўна звяртаюць увагу на назву літаратурнага твора як адзін з найважнейшых аспектаў выяўлення аўтарскай канцэпцыі (гл., напрыклад, працы Т. Шамякінай). У гэтым плане назвы раманаў У. Гніламёдава даюць добрую падставу для роздуму. Назва першага твора з цыкла — «Уліс з Прускі» — не магла не спыніць увагу нязвыклым спалучэннем антычнага з, так бы мовіць, мясцовым. У гэтай назве запраграмаваны напрамак, у якім будзе разгортвацца аповед не толькі дадзенага твора (эміграцыя галоўнага героя ў Амерыку і яго вяртанне на радзіму), але і ўсяго цыкла. Па меры развіцця сюжэтнага дзеяння вандраванне галоўнага героя і іншых персанажаў адбываецца не толькі ў прасторы (Амерыка, затым Расія), але і ў часе. На працягу эпапеі Пруска застанецца месцам сцяжэння сюжэтных ліній, жыццёвай прасторай самых дарагіх для аўтара герояў, неабходнай, адзінай, як для мележаўскіх герояў — Курані. Такія ж лаканічныя назвы большасці раманаў У. Гніламёдава: «Расія», «Вяртанне», «Вайна». Паказальна, што часопісны варыянт рамана («Ліхалецце») усё-такі ў канчатковым выніку быў зменены аўтарам на яшчэ больш лаканічны: «Вайна». У гэтым бачыцца аўтарская стратэгія: нішто не павінна ў назве твора (істотнай часткі мастацкага цэлага) адхіляць ад самага галоўнага. За словам, тым больш такім, якое адкрывае сабой шырока разгорнуты ў прасторы і часе мастацкі свет, павінен адчувацца вялікі і значны сэнсавы падтэкст. А каб унікнуць аднастайнасці ў прыёмах намінацыі, аўтар разнастаіць іх — так з'яўляецца, напрыклад, назва аднаго з раманаў: «Валошкі на мяжы». І паэтычная, і разам з тым вельмі «свойская», яна натуральна ўпісваецца ў кантэкст нацыянальнага светабачання. Трэба заўважыць, што ў агульным кантэксце эпапеі слова «мяжа» атрымлівае сімвалічную шматзначнасць і асацыюецца не толькі з выявай прыроднага краявіду, але і з трывожнымі чаканнямі, памежнасцю сітуацыі міжваенных трыццатых гадоў.

Раман «Валошкі на мяжы» апавядае пра трыццатыя гады мінулага стагоддзя — час сапраўды надзвычай напружаны, у многім драматычны. На тэрыторыі Заходняй Беларусі ўсталявалася ўлада польскай дзяржавы з яе палітыкай прыдушэння беларускага нацыянальна-вызваленчага і сацыяльна-пратэснага руху. Пад падазрэнне польскіх дэфензіўшчыкаў трапляе і сям'я галоўнага героя, на той толькі падставе, што яны вярнуліся як бежанцы з Расіі і жонка Лявона Кужаля Фёкла — руская, а значыць, «бальшавічка».

Нельга сцвярджаць, што раман «Валошкі на мяжы» (як і папярэдні раман «Вяртанне», у якім адлюстраваліся 20-я заходнебеларускія гады) — гэта твор выключна пра змаганне беларусаў супраць уладарання чужой для іх дзяржавы, хоць дзеянні дэфензівы, уціск насельніцтва з боку польскіх урадаўцаў паказаны аўтарам падрабязна: допыты, катаванні, турмы, галадоўкі вязняў, падпольная работа... У раманах У. Гніламёдава паўстае, выяўна і дакументальна абгрунтавана, драматычная гісторыя КПЗБ і яе асобных сяброў. Аднак тэматыка гніламёдаўскіх раманаў усё ж такі значна шырэйшая і звернута перш за ўсё да гуманістычных каштоўнасцей агульначалавечага кшталту. Лепшыя чалавечыя якасці ўласцівыя галоўнаму герою Лявону Кужалю: працавітасць, разважлівасць, абачлівасць, памяркоўнасць, спагадлівасць, пачуццё справядлівасці, годнасці. Ён не прывык, як некаторыя іншыя, кідацца ў крайнасці, таму што для яго галоўнае — выканаць сваё жыццёвае прызначэнне, жывучы ў згодзе з зямлёй-карміцелькай. Падчас спрэчкі з радыкальна настроеным Косцем Хлябічам, якому ён, дарэчы, заўсёды дапамагае чым можа, Лявон заўважае: «Мы з зямлёй звязаны — яна нас ой як трымае». Ад зямлі — трываласць і пазітыўная энергетыка: яны характарызуюць жыццёвую пазіцыю героя. Тут дарэчы прыгадаць выслоўе К. Чорнага — пра чалавека, які трывала стаіць «на зямным грунце».

> *Пруска застанецца на ўсім працягу эпапеі месцам сцяжэння сюжэтных ліній, жыццёвай прасторай самых дарагіх для аўтара герояў, такой жа неабходнай і адзінай для іх на зямлі, як для мележаўскіх герояў — Курані.*

Жыццё ў раманах У. Гніламёдава цячэ павольнай, але ўпэўненай плынню. Менавіта так, як адчуваюць яго героі, што жывуць сённяшнім днём з непазбежнымі клопатамі, трывожацца пра дзень заўтрашні, аддаюцца ўспамінам пра перажытае. Плынь гэтая робіць, між тым, час ад часу крутыя і нечаканыя завароты. Узрушэнні веку не абыходзяць вёску Пруска, што месціцца на старажытнай берасцейскай зямлі, на Камянеччыне, сімвал якой — Белая вежа, або Камянецкі стоўп, як ён па-мясцоваму называецца ў раманах У. Гніламёдава, — сведчанне мужнасці і трываласці краю і народа. Камянецкі стоўп, дарэчы, не раз трапляе ў поле зроку герояў, якія з Прускі падаюцца ў шырокі свет, не абмінаючы роднага мястэчка. Ды як і не заўважыць, калі ён здалёку кідаецца ў вочы, велічны і магутны. Выяву Камянецкага стаўпа бачым мы і на вокладцы рамана «Вайна», на фоне неба, асвечанага вобліскамі ваенных пажараў.




Не міналі гэтую зямлю нягоды, войны, нашэсці, перамены ўлады, якія змушалі тубыльцаў падстройвацца пад новыя ўмовы існавання — каб насуперак усяму выжыць. Так і пасля нямецкай акупацыі. Пра гэта ў рамане «Вайна» сказана так: «Жыццё не прыпынілася, яно па-ранейшаму мела нейкі свой упарты самарух. Як заўсёды, трэба было жыць, як бы цяжка ні было». Аўтар-апавядальнік, а за ім і чытач успрымаюць жыццёвыя сітуацыі герояў і выяўляюць суперажыванне іх лёсу.

Запамінальнай і кранальнай паўстае карціна жніва, якое прыпала на першае ваеннае лета. Селяніну, назаўжды прывязанаму да роднага палетка, трэба спраўляць адвечныя абавязкі перад прыродай. Вось як апісваюцца аўтарам адчуванні галоўнага героя ў гэтую адказную хвіліну: «Лявон ішоў, дыхаў палявым паветрам і са здзіўленнем адчуваў, што, нягледзячы ні на што, прыбываюць сілы і мяняецца да лепшага настрой. Зрэшты, калі ўспомніць, гэтак было з ім заўсёды. Выходзіў у поле, з плугам ці з касою, і хмарныя думкі знікалі самі сабой, забываліся, а ў глыбіні душы абуджалася нечаканая радасць, унутраны ўздым і цікавасць да жыцця».

> *Нельга сцвярджаць, што раман «Валошкі на мяжы» — твор выключна пра змаганне беларусаў супраць уладарання чужой для іх дзяржавы. Тэматыка гніламёдаўскіх раманаў значна шырэйшая і характарызуецца перадусім звернутасцю да гуманістычных каштоўнасцей агульначалавечага кшталту. Лепшыя чалавечыя якасці ўласцівыя галоўнаму герою Лявону Кужалю.*




Такому настрою адпавядае і прырода, у паўнаце сваёй летняй даспеласці і красы. «Зыркае, гарачае сонца павольна падымалася над лініяй гарызонту, рассоўваючы кудысьці ў бакі рэшткі начнога туману. Раса зіхацела брыльянтавым россыпам, абяцаючы пагодны сонечны дзень». Аднак ззянне прыроднай красы не можа цалкам засланіць у свядомасці героя новай пагрозлівай явы, якая трывожыць і не дае спакою. Ды і як пазбыцца трывожных знакаў невядомага, калі яны затаіліся непадалёк ад такой ціхамірнай, здавала б, карціны жнівеньскай пары — як, напрыклад, пакінутая ўзбоч дарогі танкетка. Так побач з вобразам жніва ўсплывае вобраз зусім іншай танальнасці, які метафарычна пераклікаецца з паэтыкай старажытнага «Слова пра паход Ігара» — вобраз вайны з касой, жніцы і малацьбіткі людскіх жыццяў: «Там, на ўсходзе, шастае яна бязлітаснай касой і грукача, малоціць сталёвымі цапамі. Вядзе сваё жніво і абмалот».

Пазней мы зноў сустракаем у тэксце драматычны вобраз, у якім уяўленні мірнага, стваральнага жыцця сутыкаюцца з асацыяцыямі іншага характару: «Іржышча пахла палыном і свежай саломай. Снапы ляжалі, як забітыя салдаты».

Адметнасць наратыўнай манеры У. Гніламёдава ў тым, што аўтар знаходзіцца як бы ўнутры выяўленага, абжытага ім свету. Нібыта апавядальнік дзесьці побач з героямі і жыва ўспрымае ўсё, што адбываецца. Міжволі ўзнікае пытанне: адкуль такое дакладнае і шматбаковае веданне тагачаснага жыцця? На той час Валодзіку (у вобразе якога бачацца біяграфічныя рысы аўтара) было зусім няшмат гадоў. Адчуваецца ўвесь жыццёвы досвед і майстэрства пісьменніка, яго ўменне ўжыцца ў пэўныя абставіны, наблізіць да чытача рэальнае адчуванне жыцця. Значна дапамаглі фактычным матэрыялам, мяркуючы па ўсім, успаміны родных, аднавяскоўцаў і ў першую чаргу дзеда пісьменніка — Лявонція Сцепанюка, прататыпа галоўнага героя раманнага цыкла.

> *Вёска Пруска месціцца на старажытнай берасцейскай зямлі, на Камянеччыне, сімвал якой — Белая вежа — сімвал мужнасці і трываласці гэтага краю і яго народа. Камянецкі стоўп не раз трапляе ў поле зроку герояў. Выяву Камянецкага стаўпа бачым мы і на вокладцы рамана «Вайна».*

Менавіта такія звесткі, якія перадаюцца ў жывой непасрэднай гаворцы, веды, на якіх трымаецца родавая памяць, здольныя ажывіць карціны мінулага як асобнага чалавека, так і людской супольнасці.

Аднак гэта не выключае неабходнасці пошукаў, апрацоўкі і засваення разнастайнага дакументальнага матэрыялу, вывучэння эпохі па гістарычных крыніцах. Творца імкнецца быць дакументальна дакладным нават у перадачы такіх адзнак, як кліматычныя асаблівасці пэўнай пары канкрэтнага года. Вось адно з такіх апісанняў: «Вясна 1937 года выдалася халоднай і зацяжной. Доўга не адпускалі маразы, і гуляў вецер са снегавой крупкай. Надвор'е дзівіла холадам і сушшу. Глыбока, на цэлы сажань, умерзла зямля...». Такая ўвага да акалічнасцей быту абумоўлена перакананасцю пісьменніка ў тым, што героі павінны існаваць, выяўляць свой характар і адносіны да свету ў абставінах, якія для іх з'яўляюцца адзіна магчымымі.

Здавалася б, ужо столькі і з такой мастацкай грунтоўнасцю напісана пра выяўлены ў творах У. Гніламёдава час — першую палову ХХ стагоддзя — пра няпростую пару выпрабаванняў нацыянальнага духу. Але ці сказана ўсё? Безумоўна, не. Пацвярджэннем таму — якраз раманны цыкл, своеасаблівы сучасны эпас У. Гніламёдава, які ўносіць у агульную карціну істотныя адценні і нюансы. Вядомыя падзеі і гістарычныя акалічнасці разглядаюцца з новага ракурсу. Аўтар выходзіць з агульначалавечых пазіцый, не навязвае чытачу які-небудзь пункт гледжання. Уладзімір Гніламёдаў, перакананы гуманіст, на баку дабра і праўды, а значыць, — на баку сваіх герояў, для якіх гэтыя каштоўнасці маюць першаснае значэнне.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# Лісты ў Калмыкію

## Невядомая эпісталярная спадчына Максіма Танка

Збор твораў народнага паэта Беларусі Максіма Танка ў трынаццаці тамах (Мінск, выдавецтва «Беларуская навука») — падзея ў гісторыі беларускай літаратуры, выразны паказчык сталасці айчыннага літаратуразнаўства. Падобныя выданні, падсумоўваючы плён дзейнасці і жыцця творчай асобы, спрыяюць таксама і далейшым даследаванням, гісторыка-літаратурнаму пошуку.

Аглядаючы 12-ы том, дзе змешчаны лісты народнага паэта да родных, блізкіх, калег, сяброў, чытачоў, разумееш, што і ў такіх вялікіх абсягах не ўсё ўлічана, не ўсё, відавочна, удалося знайсці ўкладальнікам. У прадмове да тома эпісталярыі Святлана Калядка піша: «Пэўная колькасць лістоў Максіма Танка страчана ці знішчана і г. д. Значная іх частка да гэтага часу застаецца ў прыватных архівах у розных адрасатаў Максіма Танка...» І далей: «У дзённіках Максіма Танка (апублікаваны ў дзявятым і дзясятым тамах збору твораў) узгадваецца наступныя адрасаты, лісты да якіх намі не знойдзены ці не атрыманы...» У пададзеным затым пераліку пазначаны ліст да калмыцкага паэта Міхаіла Хонінава ад 2 верасня 1967 года.

Міхаіл Хонінаў (1919 — 1981) — вядомы калмыцкі паэт і перакладчык, які пачаў друкавацца яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. У часы фашысцкай навалы ён партызаніў у Беларусі і пасля быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Доўгі час разам з калмыцкім народам ён знаходзіўся ў дэпартацыі. Вярнуўся ў Элісту ў 1957 годзе, пачаў актыўна друкавацца. Выдаў кнігу вершаў Янкі Купалы ў перакладзе на калмыцкую мову. Часта наведваўся ў Беларусь. У Мінску пабачылі свет два паэтычныя зборнікі М. Хонінава на беларускай мове. Адзін з вершаў Міхаіла Ванькаевіча пераклаў і Максім Танк — «Вось якія беларусы». Упершыню твор быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў лістападаўскім нумары за 1966 год.

*Беларусы — гэта пушчы векавыя,*
*Гэта — Нёман, Прыпяць, Нарач і Дзвіна,*
*Дзе гуляюць хвалі бурныя, крутыя,*
*Грывы шумныя ўздымаючы са дна.*
*Хвалі гэтыя здаюцца мне часамі*
*То разбуджанымі ў полі кавылямі,*
*То сайгачым шэрым гуртам незлічоным,*
*Што, пакрыты пены белаю імглой,*
*Скача праз усе парой і адхоны*
*За чабанскаю скрыпучаю арбой.*

Міхаіл Хонінаў вельмі даражыў сяброўствам з беларускімі пісьменнікамі. І, канечне ж, ліставаўся з многімі з іх. Вядомыя, у прыватнасці, 8 лістоў і паштовак Максіма Танка да Міхаіла Хонінава. Захоўваюцца яны ў хатнім архіве дачкі паэта — кандыдата філалагічных навук Рымы Міхайлаўны Ханінавай. Эпісталярыя датавана наступным чынам: 2.I.1966; 8.IV.1966; 2.V.1966; 20.XII.1966; 31.XII.1967; май 1970; май 1974; паштоўка без даты. Ліста, згаданага ў прадмове да эпісталярнага тома, на вялікі жаль, няма.

З ліста М. Танка ад 2 студзеня 1966 года: «Дарагі Міхаіл! Дзякуй за памяць, за добрыя пажаданні. Сардэчна віншую з Новым годам і цябе, і тваю сям'ю, жадаю шмат шчасця, здароўя. Шлю табе падрадкоўнік верша "Піяла..."».

Ліст напісаны па-руску. Што да верша «Піяла», створаны ён у 1965 годзе — відаць, пад уражаннем ад падарунка Міхаіла Хонінава: «Мне падарыў піялу мой таварыш, / З якой ён піў і радасць, і адчай, / Палярны вецер і вайны пажары...»

8 красавіка 1966 года Максім Танк піша ў Элісту: «Дарагі Міхаіл Ванькаевіч! Пасля нашай сяброўскай сустрэчы ў Мінску я зноў прыступіў да працы, але ў хуткім часе зноў захварэў. Новыя складанасці з сэрцам. Пішу табе з нашай рэспубліканскай бальніцы. Не ведаю, калі мяне выпусцяць з-пад медыцынскага арышту, а калі крыху і падрамантуюць, то, верагодна, адправяць падлечвацца ў Маскву. І таму, на жаль, я не так хутка змагу зноў сесці за свой рабочы стол, і не змагу — як прасіла Т. Ніканава-Развала — напісаць рэцэнзію на твае цудоўныя вершы да «Литературной России».



*Міхаіл Хонінаў з народным паэтам Беларусі Петрусём Броўкам. Мінск, 1962 г.*

> *Вядомыя 8 лістоў і паштовак М. Танка да М. Хонінава. Захоўваюцца яны ў хатнім архіве дачкі паэта — кандыдата філалагічных навук Рымы Міхайлаўны Ханінавай. Эпісталярыя датавана наступным чынам: 2.I.1966; 8.IV.1966; 2.V.1966; 20.XII.1966; 31.XII.1967; май 1970; май 1974; паштоўка без даты.*

А зборнік мне вельмі спадабаўся, спадабалася і ўступнае слова нашага Петруся Броўкі. Пры сустрэчы з Петрусём я буду гаварыць аб выданні тваіго зборніка на беларускай мове. Твае многія вершы перакладзены. Наступная падборка чакае чаргі ў «Полымі». Там ёсць і твой выдатны верш «Беларусы», які, я ўжо табе пісаў пра гэта, пераклаў я. Я многім чытаў яго, і ён вельмі ўсім спадабаўся. Пастараемся гэтую падборку даць у бліжэйшым нумары нашага часопіса. Вялікі табе дзякуй за «Колмыкскую правду» і «Комсомолец Колмыкии», за цудоўны твой «Хлеб», які да глыбіні душы ўсхваляваў мяне. Калі крыху папраўлюся, то абавязкова яшчэ напішу пра нашу брацкую дружбу, пра стэпы Калмыкіі, якія пакінулі незабыўныя ўражанні. Што да прэміі, то я, прызнацца, не спадзяюся на яе. Ад вылучэння да атрымання — далей, чым да Месяца. Я сам быў членам камітэта, і ведаю, якія там часта распальваюцца страсці-мардасці, як, напрыклад, у мінулым годзе. Больш за ўсё мяне хвалюе, што я ўжо некалькі месяцаў не магу ўзяцца за працу, і не ведаю, калі змагу ўступіць у строй дзеючых паэтаў...».

Дарэчы, дакладна вядома, што ў лістападзе 1965 года калмыцкі паэт быў у Мінску, сустракаўся з М. Танкам. Чытаем у дзённіку беларускага паэта — запіс ад 3 лістапада: «Заходзіў Міхаіл Хонінаў. Расказваў пра сваё жыццё, колькі яму давялося хлебануць гора на фронце, у партызанах, дзе і сёння аб ім на ўсёй Віцебшчыне (паэт памыліўся: хутчэй — на Міншчыне, Магілёўшчыне. — **А. К., Р. Х.**) ходзіць баявая слава — слава пра «Мішу Чорнага». А потым, калі быў арыштаваны і сасланы ў Сібір разам з усімі калмыкамі, як пакутаваў у прамерзлай зямлянцы, а пасля смерці жонкі гадаваў сваю асірацелую дачушку, як пад канвоем ездзіў у вобласць атрымліваць свой баявы ордэн. Страшны лёс выпаў на долю паэта і калмыцкага народа. Я гляджу на яго як чалавека, які пасля Дантэ прайшоў праз усе самыя страшныя кругі пекла...»

2 мая 1966 года М. Танк адпраўляе як віншаванне М. Хонінаву тэкст «Піялы» па-беларуску. А 20 снежня 1966 года піша невялікі пераднавагодні ліст: «Дарагі Міхаіл Ванькаевіч! Вялікі дзякуй табе за цудоўны падарунак — «Сучасную паэзію Калмыкіі». Чытаючы вершы сваіх калмыцкіх сяброў, я зноў на крылах паэзіі пераношуся ў Вашу прыгожую краіну, дыхаю палыновым ветрам і адчуваю на сваім твары гарачы подых стэпавага сонца — сонца нашай маладосці і дружбы. Толькі сапраўдная паэзія здольная праз гады і адлегласці данесці подых і галасы сваёй зямлі, думкі і памкненні свайго народа. Я ўпэўнены, што тыдзень калмыцкай літаратуры ў Маскве яшчэ больш умацуе нашы братэрскія сувязі...»

У лісце ад 31 снежня 1967 года М. Танк піша пра спрыянне ў арганізацыі магілёўскай камандзіроўкі калмыцкага паэта. Расказвае пра захады па выданні беларускага зборніка М. Хонінава.

Поруч з пісьмамі, паштоўкамі М. Танка (ліставанне, відаць, абарвалася ў 1974 годзе) — чарнавы накід пісьма Міхаіла Ванькаевіча народнаму паэту Беларусі. Ёсць у тым лісце радок, які нагадвае пра першую сустрэчу Максіма Танка з Калмыкіяй: 1940 год, 500-годдзе нацыянальнага калмыцкага эпасу «Джангар».

> *«Што да прэміі, то я, прызнацца, не спадзяюся на яе. Ад вылучэння да атрымання — далей, чым да Месяца. Я сам быў членам камітэта і ведаю, якія там часта распальваюцца страсці-мардасці, як, напрыклад, у мінулым годзе».*
>
> **З ліста Максіма Танка Міхаілу Хонінаву**

Згодна з паэтычнай, мастацкай філасофіяй М. Хонінава, сэнс і прызначэнне жыцця чалавека, асабліва мастака, — гэта з'ява Слова, бессмяротнасць якога абумоўлена народнымі вытокамі і народнай памяццю. Такая філасофія ва ўмовах трагічнай эпохі, трагічнага мінулага стагоддзя патрабавала мужнасці, прымушала ў атаку падымацца першым. Такім і быў калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў. Такім яго бачылі беларускія браты па служэнні Паэзіі.

**P. S.** Да распаведу пра эпісталярныя стасункі Максіма Танка і Міхаіла Хонінава хацелася б дадаць некалькі слоў пра тое, што і ў сённяшні няпросты для друкавання слова час паэзія калмыцкага майстра, яго творчая і жыццёвая біяграфія цікавыя беларусам. Пра гэта сведчыць і тое, што новыя пераклады яго паэзіі з'явіліся і ў хуткім часе з'явяцца ў літаратурна-мастацкіх выданнях Беларусі: газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя». Кнігі Міхаіла Хонінава — на пачэсным месцы ў літаратурна-краязнаўчых зборах у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна, Бярэзінскай раённай бібліятэцы. Над перакладам паэмы беларускага партызана пра Хатынь (дагэтуль да яе не звярталіся беларускія перакладчыкі) працуе Рагнед Малахоўскі. Значыць, калмыцкае мастацкае слова сягае ў шырокі свет!..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Рыма ХАНІНАВА**

*Надрукавана ў «Полымі»*

# Успаміны з 20-х гадоў

Дакументальная літаратура, створаная на беларускай мове, у большай частцы прадстаўлена ўспамінамі нашых пісьменнікаў. Новая публікацыя гэтага жанру — «Паэма майго маленства» Міколы Лобана, надрукаваная ў 7 — 8 нумарах «Полымя».

На гэты твор хочацца звярнуць увагу прынамсі таму, што ён цікава напісаны: аўтар распавядае не пра тыповае дзяцінства-юнацтва, а пра выключнае, яркае, незвычайнае. Кожны персанаж атрымлівае кароткую трапную характарыстыку, падзеяў ва ўспамінах шмат, і апісваюцца яны лаканічна.

М. Лобан — аўтар раманаў «На парозе будучыні», «Гарадок Устронь», «Шэметы», нарадзіўся ў 1911 годзе. Успаміны ахопліваюць перыяд ад дзяцінства да заканчэння ім у 1930 годзе двухгадовых педагагічных курсаў пры Слуцкім педтэхнікуме: з фіксацыяй часу і месца дзеяння, дакладным пералікам удзельнікаў пэўнага мерапрыемства ці выкладчыкаў навучальнай установы. Лірычнымі, паэтычнымі падаюцца ў першую чаргу ўспаміны пра блізкіх людзей, напрыклад пра бацьку — выдатнага садавода, які «песціў-мілаваў кожнае дрэўца» не менш, чым дзяцей. І, вядома, пра першае каханне — аднакурсніцу Любку: «За гэту ноч мы абышлі паўказачнага царства паміж лугоў і лясоў, рэк і гор. Я пачынаў ужо другі мільён пацалункаў, ужо ў тысячны раз хапаў яе на рукі, каб закінуць на месяц ці проста праглынуць. А яна хоць бы нарокам пужалася, была спакойная і даверлівая».

Галоўным чынам пісьменнік распавядае пра тое, што цікава сучаснаму чытачу: разнастайнасць жыхароў беларускай глыбінкі дарэвалюцыйнага часу, прыход Саветаў да ўлады на вёсках, адмысловую культурную атмасферу ў школах — дзе засталіся настаўніцкія, «абстаўленыя ў духу старасвецкасці», залочаныя рамы ад партрэтаў Раманавых і «старарэжымныя» выкладчыкі, між якімі трапляліся выдатныя людзі. Нямала ў творы кароткіх згадак пра сутыкненні з «высокай культурай»: абурэнне «прасталюддзя» операй, на якой з-за музыкі «слоў не разабраць», уражанні вясковага хлапчука ад першага руска-беларускага слоўніка.

Самае каштоўнае ў творы — звесткі пра літаратурнае жыццё 20-х гадоў. Між беларускіх пісьменнікаў галоўнымі персанажамі ўспамінаў з'яўляюцца Кузьма Чорны, Янка Купала, Міхась Лынькоў, а з вакна вагона чуецца голас Максіма Горкага, які праездам мінае пленум БелАПП. Пра ўласную творчасць часоў юнацтва М. Лобан распавядае стрымана і даволі самакрытычна. Цікавасць да кніг, мара быць пісьменнікам, школьная насценгазета — «І я з вялікай настойлівасцю выкручваў з сябе нейкае нікчэмнае перайманне. Усё ўпіраецца ў талент. (...) Але як яго агледзець у сабе? Хай бы мне хто сказаў, як цыганка, глянуўшы на руку». Першы рэдактар, дарадца і рэцэнзент — супрацоўнік «Беларускай вёскі» Кузьма Чорны — засведчвае літаратурныя здольнасці, але апавяданні пакуль не друкуе.

Паводле Аляксандра Вашчанкі, які рыхтаваў часопісную публікацыю, М. Лобан пісаў «Паэму майго маленства» прыкладна ў 1978 — 1979 гг. У творы ёсць і смерць Леніна, і нядобразычлівасць да белапалякаў, і ўзорны партыйны работнік — «крыштальнага сумлення, сціплы, цвёрда перакананы». Але такіх момантаў адносна няшмат — паводле ўспамінаў падаецца, што сам пісьменнік быў у першую чаргу ўважлівым, разумным беларусам, а ўжо потым савецкім грамадзянінам. І калі Мікола Лобан пісаў пра нянавісць да «кулака», то разумеў пад ім «і вясковага міраеда, і гарадскога хабарніка, і злодзея, і нават кар'ерыста». Вядома, хто ж такіх таварышаў любіць?!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Дом, дзе Ён ~~жыў~~ жыве

**Інтэрв'ю з Зінаідай Камароўскай, дырэктарам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, якому споўнілася 55 гадоў, мусіла быць святочна-юбілейным. А атрымалася самым што ні на ёсць «працоўным» — са штодзённымі клопатамі музея. Так што міжволі ствараецца ўражанне, нібыта музей, як жывая істота, пераняў рысы самога Коласа — упартасць, зацятасць, нястомнасць у працы... Судзіце самі. Перадусім Зінаіда Мікалаеўна акрэсліла праекты, якія распачаліся сёлета, у юбілейны год, і абавязкова будуць мець працяг.**

— Якуб Колас вельмі любіў Пушкіна, яшчэ з маленства. І нават калі жыў у Ташкенце, хадайнічаў за родзічку Пушкіна, што жыла з сынам-мастаком у тым жа доме, што і Канстанцін Міхайлавіч. А жылі нашчадкі Пушкіна ў галечы. Якуб Колас напісаў ліст да кіраўніцтва Узбекістана, просячы ім дапамагчы.

І сёння музей звязвае сяброўства з Пушкіным: заключаныя дамовы з Мемарыяльным музеем-запаведнікам «Міхайлаўскае», з Літаратурным музеем Пушкіна ў Вільні, маем добрыя кантакты з Музеем-кватэрай Пушкіна на Мойцы. Сёлета мы зладзілі сумесны праект з «Міхайлаўскім»: іх супрацоўнікі прыехалі да нас і на працягу тыдня праводзілі інтэрактыўныя заняткі. Праект называўся «Пушкін у гасцях у Коласа», меў вялікую папулярнасць, і мы дамовіліся паўтарыць яго ў наступным верасні.

Літаратурны музей Пушкіна ў Вільнюсе вельмі блізкі нам, бо там захоўваюцца рэчы з дому Каменскіх — стол, ложак, гадзіннік, мастацкія работы і інш. А гісторыя такая. Калісьці ў Вільнюсе знаходзіўся дом, які належаў Марыі Дзмітрыеўне [жонка Коласа. — **Н.Г.**]. У 1922 годзе яна дорыць яго свайму брату. У 1960 — 1962 гадах Міністэрствы культуры Беларусі і Літвы вырашаюць зрабіць у гэтым доме музей. Ужо была створана рабочая група, назначаны дырэктар музея, але камісія дала заключэнне аб пашкоджанні дома грыбком. Будынак раскідалі, разбурылі, і ніхто яго, зразумела, не ўзнаўляў. А ўсе рэчы з дома Каменскіх трапілі ў музей Пушкіна, які знаходзіўся зусім недалёка: Якуб Колас пісаў, што, ідучы ў рэдакцыю «Нашай Нівы», ён праходзіў каля дома, дзе жыў малодшы сын Пушкіна з жонкай. І не выключана, што ён туды і заходзіў... У наступным годзе плануем зрабіць у музеі Пушкіна сумесную выстаўку «Дзядзька ў Вільні» па раздзеле паэмы «Новая зямля». На жаль, паэма не перакладзеная на літоўскую мову — спадзяёмся, што літоўскія літаратары звернуць на яе ўвагу. Для выстаўкі ў нас ёсць цікавы матэрыял: у фондах захоўваюцца мастацкія работы Міколы Купавы — Вільня таго часу; ёсць фатаздымкі Вільні: такой, як апісвае яе Якуб Колас, і сучаснай.

Сябруем з гісторыка-мастацкім музеем Калінінграда, філіялам якога з'яўляецца музей Данелайціса. Яго «Поры года» і «Новая зямля» Коласа тэматычна вельмі блізкія. Ёсць дамова з Музеем-кватэрай М. Горкага ў Ніжнім Ноўгарадзе, а зусім нядаўна заключаная яшчэ адна — з Музеем літоўскай літаратуры імя Майроніса. Зробім выстаўку «Майроніс, Данілайціс і Колас»: іх аб'ядноўвае любоў да свайго краю, прыроды і мовы — усе ведаюць пра апошні ліст Коласа, актуальны і сёння.

Вельмі цесныя стасункі з Кіеўскім літаратурна-мемарыяльным музеем М. Рыльскага. Сябруем больш за 15 гадоў. Вядома, што і Колас з Рыльскім сябравалі, і Рыльскі тут начаваў, і ёсць нават верш, дзе згадваецца кажух, якім Колас накрываў свайго госця. Нягледзячы на дзяржаўныя межы, мы не аддаляемся, наадварот — маем вялікія сумесныя планы.

**— Калі мы размаўлялі мінулым разам, вы расказвалі пра свае мары: паставіць драўляныя скульптуры ў дворыку дома Коласа, наладзіць гукавую інсталяцыю ў яго кабінеце…**

— Усё зроблена! Я гаварыла ўжо і буду казаць: мемарыяльны музей не павінен рабіцца забаўляльным цэнтрам, але мусіць прыцягваць наведвальніка. Мы імкнёмся выхоўваць у моладзі павагу і любоў да рукапіса, да кнігі — але пры гэтым маладым хочацца адчуваць плынь сучаснага свету, бачыць, што мы ідзём у нагу з прагрэсам. У нас створана віртуальная кніга, дзе можна пагартаць старонкі першых выданняў кніг Якуба Коласа, пазнаёміцца з ілюстрацыямі да твораў, урыўкамі з фільма «На ростанях» і са спектакля «Сымон-музыка». Працуе інтэрактыўна-мультымедыйны комплекс «Чалавек. Эпоха. Час», дзе змешчаны багатыя фондавыя калекцыі, радаводнае дрэва Якуба Коласа, інфармацыя пра гісторыю музея. Кожны, хто наведае Дом Коласа, зможа паўдзельнічаць у стварэнні ўнікальнай паштоўкі з уласным фотаздымкам, праверыць сваю эрудыцыю ў віктарыне «Таямніцы Дома Песняра», агучыць урывак з твора Якуба Коласа і запісаць яго на кампакт-дыск.

А на другім паверсе мы зрабілі гукавую інсталяцыю апошняга дня жыцця Коласа. Менавіта апошняга, бо адыход Коласа быў трагічны і нечаканы, хоць ён і хварэў апошнім часам: вельмі балелі рукі, так што змяніўся нават яго акуратны почырк, што асабліва заўважна ў апошніх лістах пісьменніка.

У кабінеце чутна, як Колас падымаецца па лесвіцы, адчыняе дзверы, гучаць навіны на рускай мове — а ён жа хадзіў у ЦК гаварыць пра цяжкое становішча беларускай мовы. Выключае радыё, садзіцца за стол, бярэ тэлефонную трубку, нервова набірае нумар, але ніхто не адказвае. Затым бярэ з шуфлядкі аркуш паперы і пачынае пісаць. Чуваць рыпенне пяра: ён ніколі не карыстаўся аўтаматычнымі ручкамі — толькі пяром № 86. І ўсё — на фоне гадзінніка, які раптам змаўкае.

Зрабілі мы і гукавую інсталяцыю гасцёўні: музыка, вершы, размовы… Да Коласа вельмі цягнуліся людзі, сюды прыходзілі многія, і ён шмат дапамагаў, нават незнаёмым даваў грошы.

У 1990 — 1992 гадах на Стаўбцоўшчыне быў створаны «Шлях Коласа» — звыш 50 драўляных скульптур па матывах яго твораў. І мне захацелася перанесці частачку гэтай ідэі сюды, бо доўгі час назірала, як шмат людзей прыходзіць на тэрыторыю музея адпачыць, але не заўсёды заходзяць у наш будынак, не ўсе ведаюць нават, што напісаў Колас. Паколькі трылогію «На ростанях» ён заканчваў у гэтым доме, вырашылі паказаць Лабановіча і Ядвісю. А паколькі Сымон-музыка аб'ядноўвае і Коласа-настаўніка, і Коласа-паэта, «падсялілі» Сымонку. Дзеткі вельмі любяць «Рака-вусача» і «Савося-распусніка»: з першага твора ўжо ўстаноўлены Шчупак і Сом, а з другога ў наступным годзе размесцім Савося, Коціка і сабачку Рудзьку. Каля кожнай кампазіцыі ўсталяваныя модулі з радкамі Коласа. У наступным годзе мы плануем завяршыць гэты праект, размясціўшы на ўваходзе браму, таксама з выказваннямі Коласа.

З'явіцца і адкрытая альтанка для заняткаў з дзецьмі.

Раскрыю яшчэ адзін сакрэт. Мы хочам зрабіць фотаэкспазіцыю ў адным гаражы Коласа, а ў другім — гэта ўжо мая мара — зладзіць інтэрактыў... Зрэшты, пакуль не буду казаць. Усё раскрыецца летам.

**— Пра дамовы і праекты вы распавялі, але музей — гэта найперш людзі. Які ў вас сёння калектыў?**

— У гонар юбілею хочацца прыгадаць прозвішчы даўніх супрацоўнікаў: Мікола Рыгоравіч Жыгоцкі, які працаваў тут з 1959 года, удзельнічаў у адкрыцці музея; Марыя Нічыпараўна Далідовіч, Антаніна Міхайлаўна Гарон, Людміла Прохараўна Чыгрынава, Юлія Якаўлеўна Бураўкіна, Алесь Ануфрыевіч Савіцкі, Міхаіл Іванавіч Пратасевіч, Мікалай Уладзіміравіч Базарэвіч. Амаль 39 гадоў працуе Наталля Аляксандраўна Шувагіна-Адамовіч, спецыяліст кніжнага фонду.

Наша моладзь вельмі крэатыўная і шчыра зацікаўленая працай — шмат цікавых праектаў. Мяне іх энтузіязм проста захапляе!

Цяпер нас засталося вельмі мала — 27 чалавек разам з супрацоўнікамі філіяла. Але два чалавекі робяць тое, што маглі б дваццаць. Ніхто не цураецца ніякай работы, не кажа «вось гэта — мая, а гэтая — не». Праўда, цякучасць кадраў праз нізкія заробкі ёсць, застаюцца толькі тыя, хто справе гэтай аддадзены душой.

**— Ці падтрымліваюцца стасункі з тэатрам імя Якуба Коласа? Разумею, што замінае адлегласць, — і ўсё ж?**

— Яшчэ некалькі гадоў назад коласаўцы традыцыйна бывалі ў Доме Коласа, ладзілі сустрэчы, абмяркоўвалі планы супрацоўніцтва. Але апошнім часам сустрэчы і стасункі з тэатрам згаслі. Падтрымліваем сяброўскія адносіны з былымі коласаўцамі — народнай артысткай Т. Мархель, заслужаным артыстам В. Салаўёвым. Шкада, што ў тэатры імя Якуба Коласа не ідуць пастаноўкі па творах паэта, няма ў іх гэтай візітнай карткі...

**— Ёсць вялікія планы на наступную «пяцігодку»?**

— Па-першае, час абнаўляць літаратурную экспазіцыю, якая будзе адпавядаць патрабаванням дня сённяшняга.

Па-другое, удыхнуць жыццё ў мемарыяльныя сядзібы музея, увесці больш інтэрактыву.

Мой галаўны боль — сядзіба Ласток, якая знаходзіцца даволі далёка ад Стаўбцоў ды іншых філіялаў. Але гэта такое ўтульнае, такое светлае месца!.. Думаю, абноўленае кіраўніцтва Стаўбцоўскага раёна дапаможа. Можа, адгукнуцца мецэнаты. Хочацца больш увагі надаваць навуковай рабоце: падрыхтаваны каталогі рукапісаў, мастацкага фонду, сабраны матэрыял для энцыклапедычнага даведніка. У наступным годзе будуць 30-я «Каласавіны» — і варта выдаць вялікі збор найцікавейшых матэрыялаў.

**Гутарыла Наста ГРЫШЧУК**

## 5 самых цікавых паступленняў за апошнія пяць гадоў

**Суд у лесе.** Першае выданне паэмы з дарчым надпісам Якуба Коласа рускаму паэту, публіцысту Кошачкіну Сяргею Пятровічу (з архіва сям'і С. Кошачкіна). Кніга набытая Ганадам Чарказянам і Станіславам Сакаловым, маскоўскім пісьменнікам, і падараваная музею падчас «Каласавінаў» 3 лістапада 2010 года.

**2 лісты** Якуба Коласа да **Аляксандры Сцяпанаўны Каліны**. Перададзеныя ёю ў 2013 годзе (датаваныя: «1956/06/01», «1956/05/19»).

**Ілюстрацыі Анатоля Волкава** да выдання паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» 1958 года. Дар ад Сяргея Волкава, сына мастака.

**Ілюстрацыі Васіля Шаранговіча** да паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» (44 графічныя аркушы набытыя за 2011 — 2013 гады).

**Кнігі** з кола чытання Я. Коласа 1920 — 1950-х гадоў, **падараваныя музею калекцыянерам Андрэем Філатавым**.

Тарашкевіч Б. «Беларуская граматыка для школ» (з аўтографам Пятра Глебкі), 1921.

Купала Янка «Драматычныя творы», 1952.

Толстой С. Л. «Очерки былого», 1933.

Руссо Жан-Жак «Исповедь», 1949 і інш.

## 5 экспанатаў, без якіх музей Коласа — не музей Коласа.



*Раяль. На ім гралі не толькі сямейныя — нявестка Зарына, дзеці, — але і шматлікія госці.*



*Славутыя кійкі. Для пісьменніка майстраванне кійкоў было ўлюбёным хобі.*



*Радыё. У доме Коласа быў тэлевізар — вялікі цуд на той час, але пісьменнік аддаваў перавагу радыё.*



*Пяро № 86. І ніякіх аўтаматычных ручак!*



*Каляндар. Канстанцін Міхайлавіч не толькі збіраў календары, але і рабіў у іх цікавыя пазнакі.*

*Паралелі*

# «Кішэнны ліхтарык» для чытача

**Не так даўно група беларускіх пісьменнікаў, перакладчыкаў і літаратурных крытыкаў вярнулася з Берліна. Тыднёвая азнаямленчая праграма, арганізаваная Інстытутам імя Гётэ ў Мінску, уключала мноства сустрэч з нямецкімі выдаўцамі, перакладчыкамі, пісьменнікамі. А паколькі ў ліку ўдзельнікаў паездкі — і кіраўнік праекта «Кніжны свет», нашы чытачы змогуць досыць падрабязна пазнаёміцца з асаблівасцямі літаратурнага жыцця нямецкай сталіцы. Пройдземся па калідорах Берлінскага літаратурнага калоквіума і Берлінскага Літаратурнага дома, сустрэнемся з лектарам выдавецтва Zuhrkamp Катарынай Раабэ і прафесарам беларускай літаратуры Гумбальдскага ўніверсітэта спадаром Гайнрыхам Кіршбаўмам, пазнаёмімся з праектамі Літаратурнай майстэрні і завітаем на паэтычны слэм. Сёння ж прапануем пазнаёміцца са спадарыняй Вібке Паромбка, літаратурным крытыкам, якая піша пераважна для газеты Frankfurter Allgemeine Zeitung, выступае ў якасці вядучай на радыё і сумесна з калегамі рэалізоўвае ўласныя выдавецкія праекты. Спадарыня Вібке распавядае пра запатрабаванасць крытычных тэкстаў у Германіі, кантакты і канфлікты паміж крытыкамі і пісьменнікамі, а таксама прапаноўвае ўласны рэцэпт ідэальнай рэцэнзіі.**


Фота з інтэрнэт-сайта spiegel.de

Літаратурны крытык Вібке Паромбка.

## ЯК ВЫЖЫЦЬ КРЫТЫКУ?

*Беларускія літаратурныя крытыкі ўжо звыкліся з тым, што адно напісаннем рэцэнзій займацца не выпадае. Мы працуем журналістамі, выкладчыкамі, пішам пра музыку і тэатр, перакладаем. Ці лёгка жывецца нашым калегам у Германіі?*

— Раней штодзённыя газеты ў кожным выпуску друкавалі па тры рэцэнзіі на кнігі. Да таго ж некалькі старонак нумара прысвячалася рубрыцы «Фельетон», у межах якой прадстаўляліся кароткія эсэ пісьменнікаў, урыўкі з твораў ці расповеды пра актуальныя падзеі культурнага жыцця Германіі. Цяпер колькасць літаратурных старонак у газетах няўхільна змяншаецца, а ў ходзе апытання, якое не так даўно праводзілася, стала зразумела, што гэтая частка газеты чытача не надта цікавіць. Таму цяпер толькі чатыры нумары газеты на тыдзень выходзяць з тэкстамі пра літаратуру, і адзін — змяшчае матэрыялы пра музыку. У крытыкаў досыць песімістычны настрой, бо ў рубрыцы «Фельетон», што публікуецца на 4 — 5 старонках, літаратуры прысвечаная толькі адна з іх.

Колькі сёння крытыкаў працуюць у Берліне, складана палічыць, але існуе ядро найбольш актыўных і ўплывовых. Мы канкурыруем за ўвагу чытача, але ў той жа час і супрацоўнічаем: ладзім сумесныя праекты, робім перадачы на радыё, дзе прадстаўляем розныя меркаванні пра адзін і той жа літаратурны твор.

Адметна, што «чыстых» літаратурных крытыкаў — асоб, якія займаліся б адно напісаннем рэцэнзій на новыя кнігі, у Германіі няма. Немагчыма пражыць адно на ганарары за рэцэнзіі і радыёпраграмы. Я ведаю шмат крытыкаў, якія выкладаюць ва ўніверсітэтах, перакладаюць, выступаюць у якасці вядучых, працуюць журналістамі. Варта падкрэсліць, што мы не пішам пра паўсядзённасць, палітычныя падзеі, аднак я ведаю некалькі літаратурных крытыкаў, якія працуюць яшчэ і ў галіне музыкі.

Крытыкі стараюцца рэалізоўваць уласныя праекты, якія былі б больш запатрабаваныя публікай, чым уласна рэцэнзіі. Да прыкладу, мы з сябрам да кніжнай выстаўкі ў Франкфурце-на-Майне выдаём адмысловую газету, дзе ў смешнай форме распавядаем пра кніжны бізнес. Нашы калегі могуць пісаць навуковыя ці навукова-папулярныя кнігі. Да прыкладу, я цяпер працую над выданнем пра самых вялікіх няўдачнікаў у гісторыі Германіі. Але калі крытык сам хоча напісаць раман, варта падумаць пра рэакцыю публікі. Неабходна быць асцярожным і з уласным водгукам на кнігі. Раптам аўтарам новага твора стане рэдактар рубрыкі «Фельетон». У такім выпадку трэба некалькі разоў падумаць, перш чым напісаць нешта кепскае. Гэта можа мець наступствы.

## ВАЖНАСЦЬ ВОДГУКУ

*Нямецкія літаратурныя крытыкі досыць скептычна ставяцца да бестселераў і перадусім спрабуюць разабрацца ў прычынах іх поспеху. Так, Вібке Паромбка сцвярджае:*

— Бестселерамі становяцца ў асноўным творы забаўляльныя, а гэтыя тэксты ўжо па азначэнні не абмяркоўваюцца ў рубрыцы «Фельетон». Аднак бываюць і шчаслівыя выключэнні: калі ў лік бестселераў трапляюць сапраўды цікавыя, фенаменальныя кнігі, то мы, натуральна, іх абмяркоўваем. Праца крытыка — нібыта «кішэнны ліхтарык» для чытача. Мы распавядаем пра сапраўды добрыя кнігі і тлумачым, чаму іх трэба прачытаць.

Варта адзначыць, што на камерцыйны поспех выдання ў Германіі ўплываюць таксама і прэміі, што прысуджаюцца аўтарам. Напрыклад, аўтар — лаўрэат Нямецкай кніжнай прэміі, якая ўручаецца напрыканцы года, можа разлічваць на тыраж 100 тысяч асобнікаў. Больш за тое, кнігі-намінанты актыўна абмяркоўваюцца амаль цягам года. Так, для ўдзелу ў своеасаблівым конкурсе кожнае нямецкае выдавецтва прадстаўляе 2 кнігі. Гэтыя выданні размяркоўваюцца паміж 7 крытыкамі — сябрамі журы. Першапачаткова лік прэтэндэнтаў на прэмію складае 200 — 250 кніг, потым іх колькасць скарачаецца да 20 у лонг-лісце і 6 у шорт-лісце, з якога ў выніку выбіраецца пераможца. Адметна, што працэс прысуджэння прэміі выдатна асвятляецца ў прэсе, таму трапіць нават у лонг-ліст вельмі прэстыжна для выдання.

*У Беларусі досыць распаўсюджанае меркаванне, што крытыкам варта было б сабраць усе рэцэнзіі і апублікаваць іх пад адной вокладкай, тым самым прадставіўшы і шырыню поглядаў самога крытыка, і адметнасці існавання сучаснай літаратуры. Аднак на меркаванні спадарыні Вібке, выданне зборніка рэцэнзій немэтазгоднае:*

— Рэцэнзія актуальная толькі некалькі дзён. Праходзіць час, і твайго тэксту нібыта і не было. Іншы варыянт — выдаць кнігу крытычных артыкулаў пра творы аднаго аўтара, але я не ведаю крытыкаў, якія маглі б цалкам прысвяціць сваю працу вывучэнню раманаў аднаго пісьменніка. Але бывае, што крытыкі пішуць біяграфіі аўтараў.

## ВЫДАВЕЦ — РЭДАКТАР — КРЫТЫК

*Што да арганізацыі самой працы крытыка, кантакту з выдаўцамі і працэсу адбору кніг, то ў Германіі ён выглядае наступным чынам:*

— Я не маю прамога кантакту з аўтарамі і выдаўцамі. Выдаўцы кантактуюць толькі з рэдактарам газеты, для якой я пішу. На аснове адмысловага літаратурнага агляду, што прадстаўляецца ў рэдакцыю, я складаю спіс кніг, пра якія хацела б напісаць. Але ў выніку не заўсёды атрымліваю заданне ад рэдактара, адпаведнае інтарэсам. Часам даводзіцца пісаць пра раманы, якія напачатку, праз прадстаўленне ў аглядзе і каталогу, зусім не зацікавілі. Варта падкрэсліць, што крытыкі звычайна маюць сваю «спецыялізацыю»: нехта аддае перавагу аўтарам з пэўнай краіны, ёсць тыя, хто піша толькі пра паэзію ці прозу.

Калі атрымліваю заданне напісаць рэцэнзію на кнігу, бывае, нават не ведаю, як пісаць. Многія рэдактары радуюцца, калі крытык піша адмоўны водгук. Літаратурны разгром заўсёды прываблівае ўвагу і да газеты, і да самой кнігі, пра якую ідзе гаворка. Калісьці я пісала для вельмі смелай газеты Taz, дзе мела рубрыку «Маладая дзяўчына абмяркоўвае старых мужчын». Там я дазваляла сабе ўсё. Цяпер жа прымаю да ўвагі і той факт, што да меркавання крытыка мала прыслухоўваюцца. Нават калі адбываецца абмеркаванне кнігі на старонках розных перыёдык, то думкі крытыкаў вагаюцца, як маятнік: адны хваляць кнігу як выдатны тэкст, другія, наадварот, сцвярджаюць, што гэта поўны правал аўтара. Нейкай сярэдзіны, калі магчымае глыбокае абмеркаванне адметнасцей тэксту, няма.

*Рэдактары беларускіх газет і часопісаў звычайна ўхваляюць дыскусіі пра кнігі з удзелам крытыкаў, аўтараў і выдаўцоў. Падаецца, гэтая завядзёнка бярэ карані яшчэ ў пачатку XX ст., калі на старонках «Нашай нівы» было прынята публічна абмяркоўваць і творчасць асобных аўтараў, і ход літаратурнага працэсу ў цэлым. У Германіі ўсё зусім па-іншаму. Вібке Паромбка зазначае:*

— Вельмі рэдка дыскусіі паміж крытыкамі ці паміж аўтарам і крытыкам вядуцца напрамую. Часцей гэта бывае праз шматлікія пляцоўкі: тэксты публікуюцца ў розных выданнях, але не на полі адной газеты. Вельмі рэдка абмеркаванні ці дыскусіі публікуюцца ў межах адной рубрыкі газеты ці праходзяць у літаратурных перадачах на радыё. Магчыма, прычына ў тым, што выдаўцы і літаратурныя агенты рэкамендуюць аўтарам не рэагаваць на крытычныя водгукі. Я не чула пра выпадкі, калі б пісьменнік выказваў нейкую негатыўную рэакцыю на рэцэнзію. Хутчэй магчымы асабісты кантакт пісьменніка і крытыка ў межах выстаўкі, тады справа можа нават да бойкі дайсці. Але паўтаруся, што існуе правіла не рэагаваць на крытыку, асабліва адмоўную.

## ПРА РЭЦЭНЗІЮ

*Жанру рэцэнзіі на літаратурны твор досыць складана даць агульныя характарыстыкі, якія можна было б узвесці ў канон. Як вызначае якасць рэцэнзіі нямецкі крытык?*

— Мне падабаецца пісаць станоўчыя рэцэнзіі. Калі кніга сапраўды спадабалася, зачапіла, то прыемна гэта паказаць аўтару. Але калі чытаць было непрыемна, то і гэта адлюстроўваецца ў маім тэксце.

Вельмі добра, калі ў рэцэнзіі выказваецца ўласнае меркаванне крытыка. Ён адкрываецца перад чытачом як асоба. Гэта здымае і элемент «абсалютызму»: крытык становіцца неабароненым, бо яго думку можна аспрэчыць. У той жа час сам тэкст рэцэнзіі з такім «асабістым» элементам успрымаецца не проста як рэклама-рэкамендацыя, маўляў, кніга добрая, таму купляйце, ці, наадварот, кепская, таму яе набываць не трэба. Важна, калі рэцэнзія прадстаўляе чытачу назіранне за крытыкам, яго рэакцыямі на раман, адлюстроўвае нават міміку падчас чытання. Гэта ірацыянальная сфера кнігі. Але трэба памятаць і пра рацыянальнае: звяртаць увагу на гістарычны кантэкст твора, мову, стыль аўтара. Рэцэнзія можа змяшчаць гісторыю, што адлюстроўвае новыя грані рамана, пра які ідзе гаворка, і нават выходзіць за межы кнігі. Але вельмі важна, каб гэтая асабістая гісторыя была добра расказаная.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Берлін — Мінск**

# На ўсе часы

**30 лістапада 2001 года пайшоў з жыцця Леў Караічаў — беларускі пісьменнік, сябра саюзаў пісьменнікаў, журналістаў, тэатральных дзеячаў. У ягоных творах паўсталі праблемы вечныя, якія ўзнікаюць ва ўсе часы. Выбар і ўчынак, каханне і смерць, гонар і абавязак.**



Леў Караічаў друкаваўся з 1958 года. Аўтар п'ес «І вызвалі сына», «Зорныя ночы», «Слова гонару», «І на ўсе часы», «Апанаванасць», аповесці «Двое на востраве». З узнаўленнем незалежнасці Беларусі аўтар гучных эсэ ў буйных газетах краіны: «Таямнічасць і дакор Багдановіча», «Беларусь — не выдумка», крытычных і публіцыстычных артыкулаў. П'есы Караічава былі пастаўлены ў шэрагу айчынных тэатраў.

Творца заўсёды закранаў тэматыку, блізкую Беларусі. У 1988 годзе на першай старонцы «Камсамольскай праўды» выйшаў артыкул «Экалогія душы». «Жыццё і ўчынкі кожнага з нас настолькі пераплецены, узаемазвязаны, што нават адзіны бестурботны рух чалавека можа закрануць мільёны жыццяў», — пісаў ён у артыкуле пра экалагічныя праблемы Беларусі. Ці гэта не пра сённяшняе жыццё?

Значным творчым поспехам Льва Караічава стала п'еса «Трэцяга не дадзена». Абставіны ваеннага часу звялі разам трох юнакоў: Андрэя, Георгія і Кацярыну. Драматычны лёс Кацярыны, у якой загінулі маці і маленькая сястра, — у цэнтры твора. Яна пакахала Георгія, але, разумеючы, што ён здраднік, знаходзіць у сабе моц для перамогі над ворагам і над сабою. Дзяцінства пісьменніка прайшло на тэрыторыі сучаснага Мінска ў вёсцы Слепня. Амаль кожны дзень падчас вайны маці пісьменніка адпраўлялася ў горад уздоўж канцлагера ля сучаснага гадзіннікавага завода, каб здабыць ежу. Хлопчык добра памятаў усе гэтыя жахі.

Льва Караічава цікавіў шырокі спектр тэм. Асаблівую ўвагу ён аддаваў Янку Купалу і яго ўлюбёнай Паўліне Мядзелцы. У 2001 годзе пабачыла свет апошняя п'еса Льва Караічава «Карона з кахання» пра нястрыя адносіны паэта і ягонай Музы. Пісьменнік шмат працаваў з архівамі і гісторыкамі, цікавіўся невядомымі шырокай аўдыторыі фактамі.

У 2002 годзе, пасля смерці пісьменніка, быў надрукаваны збор твораў Льва Караічава «Карона з кахання» (сюды ўвайшла і п'еса «Што наша жыццё?»). Яе героі — шахматныя фігуры, якія ўвасабляюць глабальныя чалавечыя схільнасці да слабасці.

Леў Караічаў неадначасова быў старшынёй падліковай камісіі на выбарах старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, браў актыўны ўдзел у дзейнасці секцый публіцыстыкі і драматургіі, знаходзіўся ў добрых стасунках з вельмі рознымі па палітычных поглядах калегамі.

У хуткім часе з'явіцца асабісты сайт пісьменніка: *www.levkaraichev.by*.

**Аляксандр ІВАНОЎ**

# Сэрца — дзецям

Нацыянальная бібліятэка Беларусі вылучыла пісьменніка, галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага на прэмію Астрыд Ліндгрэн, якая прысуджаецца спецыяльнай урадавай камісіяй па ўшанаванні памяці славутай шведскай дзіцячай пісьменніцы. Сярод намінантаў — а іх каля 200 — літаратары і мастакі з 61 краіны свету. Пра творчасць на ніве дзіцячай літаратуры і выхаванне дзяцей мастацкім словам — наша гутарка з Уладзімірам Сцяпанавічам.

— Я вельмі цаню пісьменніцкую мудрасць Астрыд Ліндгрэн. Мяне кранула яе біяграфія: нарадзілася ў сялянскай сям'і, рана спазнала, што такое вясковая праца, заўсёды чула ставілася да бацькоў… Прыемна, што маё імя аказалася ў ліку дзіцячых пісьменнікаў свету. Хацелася б пазнаёміцца з калегамі па пяры, даведацца, што іх хвалюе, якія тэмы і праблемы ўздымаюць, выпрацоўваюць у сваёй творчасці. Вельмі важна, як сёння ўздзейнічае літаратурнае слова, якімі прыёмамі карыстаюцца творцы, каб выхаваць маленькага чалавека шчырым і разумным.

**— За апошні час у вас і ў рэдакцыі «Вясёлкі» шмат дасягненняў: новы часопіс для дашкольнікаў «Буся», праект «Бібліятэка часопіса «Вясёлка»», у межах якога пабачыла свет і ваша кніга «Свята колераў «Вясёлкі»», распачаты сумесна з выдавецтвам «Адукацыя і выхаванне». Да ўсяго, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў рускамоўны зборнік вашых казак «Залаты домік». Што яшчэ ў творчых планах?**

— У «Вясёлцы» друкуецца мая новая аповесць «Закаханы трэцякласнік». Мяркуючы па водгуках, гэта тэма хвалюе чытачоў. Яны чакаюць аповесць асобнай кнігай. Я часта бываю ў школах, выступаю перад рознымі аўдыторыямі. Толькі сёлета наведаў 62 навучальныя ўстановы. А нядаўна ў суаўтарстве з пісьменніцай Раісай Баравіковай стварылі казку пра літары беларускага алфавіта, затым — аповесць-казку пра лічбы. Цяпер пішам казку «Пра Бусю, які жыве на Беларусі». Гэтая рэч на першы погляд падаецца простай, але на самай справе даволі складаная: неабходна стварыць павучальную і займальную аповесць-казку для самых маленькіх!

Увогуле ж дзіцячаму пісьменніку няма калі адпачываць. Дзеці падштурхоўваюць да важных для іх тэм. Прыкладам, выйшлі тры мае кнігі па краязнаўстве: «Вясёлка над Нёманам» (пра Гродзеншчыну), «Гомельская зямля — радзіма твая і мая» і «Я тут жыву» (пра Беларусь). І гэта толькі пачатак таго, пра што мару расказаць юным чытачам. Хацелася б, каб да гэтай справы далучыліся і іншыя пісьменнікі, журналісты, навукоўцы, гісторыкі. Нам ёсць што сказаць пра нашу краіну, яе мудрых людзей.

**— Што для вас важна ў пісьменніцкай справе?**

— Лічу, галоўнае — аддаваць любімай справе сваё сэрца. І калі адчуеш, што напісанае пранікла ў душу дзіцяці, нечаму яго навучыла, — гэта самая высокая ацэнка.

**Маргарыта ПРОХАР**

# Пра ўбачанае і перажытае



*Дзеравянка, А. М. Гасцяванне ў Налібоках: апавяданні, навелы, абразкі, лірычн. мініяцюры / Алесь Дзеравянка. — Мінск: Выд. В. Хурсік, 2014. — 144 с.; на вокл. партрэт аўтара.*

Ёсць чуйныя да мастацкага слова руплiўцы, якія працуюць спакойна, без лішняй мітусні. Занятак літаратурай для іх — ціхая, някідкая справа, жаданне адлюстраваць жыццё такім, якім яно ёсць. Вось і Алесь Дзеравянка — з катэгорыі такіх творчых людзей. У 1997 годзе выйшла яго кніга «І сонца ўзыходзіла вясной». У зборніку сабраны замалёўкі, нарысы, апавяданні. Яшчэ праз некалькі гадоў пабачыла свет аўтабіяграфічная аповесць «Шчыток. Вайна». Відавочна, што піша Алесь Дзеравянка пра ўбачанае, перажытае. А калі і становіцца прадметам яго разгляду гісторыя падслуханая, расказаная кімсьці, то ў тэксце не прамінe сказаць пра апавядальніка, назаве яго прозвішча.

Да жадання занатоўваць свае назіранні над жыццём, аглядаць яго з вышыні сваіх філасафічных высноў А. Дзеравянка прыйшоў праз журналістыку. Працуючы ў Міністэрстве ўнутраных спраў, ён сустракаўся з цікавымі людзьмі, умеў шмат каго разгаварыць, убачыў у паўсядзённым нешта адметнае, незвычайнае. Так нараджаліся артыкулы, якія друкаваліся ў «Известиях», «Правде», «Звяздзе», «Чырвонай змене», іншых газетах і часопісах.

Новая кніга — «Гасцяванне ў Налібоках». Пад адной вокладкай — апавяданні, навелы, абразкі, лірычныя мініяцюры. Аўтар пранікліва сягае ў глыбіні чалавечых перажыванняў. Карцінкі, падгледжаныя ім у жыцці, выкладае добрай, сакавітай роднай мовай. Шмат раскідана па тэксце прыказак, фразеалагізмаў. Ужыванне іх у разнажанравай прасторы надзвычай натуральнае, лагічнае. Складваецца ўражанне, што гэта не пісьменнікам наўмысна ўцягнуты цытаты, а так сапраўды гаворыць, так думаюць яго героі. Я ў гэта веру. Часам мы сустракаем у тэкстах імёны, прозвішчы рэальных людзей — высокіх службоўцаў, герояў дакументальных тэкстаў, якія раней пісаў Аляксандр Міхайлавіч для газет і часопісаў. Але аўтар не імкнецца нагрувашчваць мастацкую, жывую тканіну сваіх твораў пераказам лішніх дэталяў — стараецца адабраць для апавяданняў, навел самае галоўнае, важнае. А. Дзеравянка прыўздымаецца над фактамі і прыкладамі, імкнецца вылучыць з іх красамоўныя вобразы і сімвалы. Апісанне герояў і падзей набывае рэльефны характар, аповед атрымліваецца досыць дынамічным і прыцягальным.

Хаця агульная інтанацыя, характарыстыка мастацкіх пошукаў аўтара кнігі «Гасцяванне ў Налібоках» была б не поўнай, калі б не акцэнт на тым, што пісьменнік — чуйны збіральнік народнага жыццяпісу, творца, які нашчадкам пераказвае досвед папярэднікаў, занатоўвае ўрокі існавання ў багатай на падзеі і проста неабсяжнай па зруху душэўных памкненняў рэчаіснасці. І гэта аўтару ўдаецца. Раю пераканацца ў гэтым!

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

# Яе голас

Разумею, наколькі складана гаварыць пра паэзію, наколькі няпроста ацэньваць словамі той няўлоўны матыў нечай душы, які гучыць у прасторы і напаўняе ўдзячнай пяшчотай, бо сапраўдная паэзія — гэта лекі ад раўнадушнай і вязкай нудоты, ад панылага суму і горкай паняверкі.

Часта мы збіваемся на легкаважкія ацэнкі чужой творчасці, гаворачы пра блізкі табе паэтычны свет аўтара прачытанай кніжкі, баімся выказацца банальна, бяздоказна, празмерна кампліментарна, баімся пакрыўдзіць неасцярожным словам, асабліва калі ведаеш чалавека, пра творы якога пішаш.

Надзея Салодкая, з якой нас звязвае даўняе сяброўства, не раз чула мае водгукі на свае вершы, праўда, не заўсёды захопленыя. Але я рады, што адным з першых заўважыў талент паэткі, яе шчырую спавядальнасць і глыбінную натуральнасць.

Менавіта гэтымі якасцямі пазначана і яе новая кніга паэзіі «Галасы», якая выйшла нядаўна ў выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Пра нялёгкі жыццёвы лёс Надзеі пісаў ужо не раз, але паэзія — не толькі адлюстраванне ўласных пакут і болю — яна ўздымаецца да вышынь шчымлівага чыстага гучання, выклікае суперажыванне і жаданне адгукнуцца шчырай удзячнасцю.

*…Прыпаду на калені*
*У нягучным маленні.*
*У даверлівай пакоры*
*Нахілю галаву.*
*Выпускаю са жмені*
*Самавітыя цені —*
*Усе спрэчкі — дакоры*
*На жывую траву…*

Што незвычайнага ў гэтых радках? І каб не гэтая жывая трава, то ўсё падалося б традыцыйным і звыклым. Але трава, рэчка, неба, вецер у Надзеі Салодкай жывыя істоты, нібы ад старадаўняй язычніцкай традыцыі ажыўляюць усё навокал і маліцца небу, сонцу, ветру…

Што такое традыцыі і як яны існуюць у сучаснай паэзіі? Напэўна, гэта ўсё ж памяць, якая ад прашчураў перацякае ў сённяшні дзень і стукаецца незаўважна ў камп'ютарныя радкі.

Не кожнаму гэта дадзена — спрадвечная народная памяць, захаваная і выпеставаная многімі продкамі, і не кожны можа натуральна выгукнуць, нібы замову:

*Не глядзі мне ў вочы, зімачка мая,*
*Нешта хутка крочыш — замарудзь, гуляй.*
*Не ў маіх гадочках, жнiўні не ў маім…*
*Не сцялі на ночку белы свой кілім…*

Таму вершы Салодкай часта становяцца песнямі, а пад чуйнай акантоўкай кампазітараў робяцца вельмі беларускімі, амаль народнымі.

Сваю беларускасць Надзея ніколі не падкрэслівала, але беларускасць, сапраўдная, натуральная, гучыць у кожным яе слове:

*Зацвілі маразянкі. Прыкмета такая:*
*Парукалася восень з пасланцам зімы.*
*Да марознага глянцу ўжо душа прывыкае,*
*Хаця ўсё так аднясна: снег, пялёсткі і мы...*

Здаецца, так ужо не пішуць, гэта нагадвае старасветчыну, але сучасная паэтка ідзе ўласным шляхам — так, як спявае, як выказваецца яе душа. Гэта не можа напісаць гарадскі тонкі лірык, і я не змагу... Яна нарадзілася на Лёзніншчыне, каб набрацца гаючага соку родных крыніц…

*Не-не і правецца патаемна —*
*асабістае, балючае:*
*Лёс даў мне абрыдла нямоглае цела.*
*Фізічную кволасць, нясцішаны боль.*
*І з гэтым жыццё адгуло, адсмылела.*
*На вейкі і скроні ссыпаючы соль…*

Ды гэтая прыродная і набытая нямогласць гартавалі сілы духу, паэзія станавілася тым ратаваннем, тымі лекамі, якія не раз ратавалі паэтку ў самых, здаецца, безнадзейных сітуацыях.

*Яшчэ зразумела: вялікае ўменне —*
*Спазнаць і прыняць свой падораны час*
*З начынннем любым і любога найменя,*
*Які працякае няўмольна праз нас.*

Паэтычны свет — нібы аркестр, дзе не толькі першыя скрыпкі гучаць чароўна і ладна — без сціплых валторнаў, віяланчэляў і нават бразготак не дасягнуць такога магутнага зладжанага гучання. Абы фальшу не было!

У кнізе Надзеі Салодкай няма фальшу, а значыць, яе «Галасы» пачуюць тыя, хто любіць паэзію, хто верыць у чысціню і сілу роднага слова.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Ключи от всех палат

**Железные решётки на окнах, высокий забор с колючей проволокой и завывания, просачивающиеся сквозь стены, — такой вы представляли психиатрическую больницу? Хорошо, если нет. Многие люди, к сожалению, заражены вирусом стереотипов и предрассудков. Перестаньте же смотреть косо на тех, кто разгуливает по коридорам лечебницы, общаясь с ангелами или великими полководцами, а может быть, представляя себя Мэрилин Монро или принцем Чарльзом! Эти люди просто сбежали от сломавшей их реальности, спрятались в своём мирке. Не отводите глаза: психическое расстройство может случиться с каждым. Внешний мир любит подбрасывать сюрпризы, и не все из них приятны. Книги, представленные ниже, позволят вам понять и изучить себя, став невидимыми свидетелями правдивых историй болезней людей, которые попали в ненормальные обстоятельства. Запомните: здоровая психика и душевный комфорт подлежат восстановлению!**

## БЕЗУМИЕ КАК ОБЫДЕННОСТЬ

Психиатрическая клиника похожа на запретную планету, где каждое отделение — страна, живущая по своим правилам — авторитарным, откровенно хаотичным либо уникальным, как древняя цивилизация Востока. Время в мире палат и белых халатов «отстаёт примерно лет на 30». Атмосфера же до мурашек специфическая: коконы со спящими больными, медленный воздух, наполненный запахом каши и хлорки, «люди, похожие на полузабытые сломанные вещи» и вместе с тем — новогодняя вечеринка с ёлкой, дискотекой, шоколадными конфетами и настоящий рождественский спектакль.




Правдивая история любви и отчаяния, выздоровления и борьбы с собой, произошедшая в одной из московских психиатрических клиник, стала «фундаментом» для книги **«Про психов», вышедшей в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест»**. Авторы — практикующие психологи Елена Леонтьева и Мария Илизарова — побывали на месте событий, прочувствовали то, что объединило в один клубок судьбы пациентов и врачей — близкие, как оказалось, удивительно трогательные.

Больничные будни разворачиваются на страницах книги так живописно, что кажется, будто смотришь документальный фильм. Пациенты «поступают, лечатся, выписываются». «Врачи приходят затемно на работу, проводят утренние пятиминутки, делают обходы, пишут истории болезней, медсёстры раздают лекарства, пьют чай в сестринских и сплетничают».

Что вы знаете о необычных, неврастениках, ненормальных, тех, кто «покинул среднестатистические берега нормы и отчалил к неизвестному миру безумия»? После прочтения книги понимаешь ошибочность своих суждений и с ужасом приходишь к выводу, что нормальные люди, разгуливающие на свободе, зачастую гораздо опаснее. «Именно они, по большей части, совершают преступления, обманывают, предают, воруют, убивают, придумывают дурацкие правила, усложняющие жизнь». Истории в книге призваны ответить на многие вопросы, но вместе с тем оставляют место для размышления. Не обойдено вниманием даже то, о чём не принято говорить. Например, трудности больничного устройства: нехватка помещений для общения врачей и пациентов, генеральские повадки некоторых врачей и медсестёр...

В момент, когда ты сошёл с ума, «мир утрачивает предсказуемость и однозначность», а ведь психологи и психиатры тоже работают в этой обстановке и их реальность постоянно подвергается «нападкам» безумия. Психозы не спрашивают. «Ходят, как поезда, по своему расписанию».

В книге «Про психов» такое обилие интересных и не похожих друг на друга людей, «не сводимых к простым человеческим множествам», что голова поневоле кружится: колоритный алкоголик, маскирующийся под Высоцкого; небрежно и вызывающе накрашенная актриса, страдающая галлюцинациями; милиционер, выступивший против системы; «волк-одиночка», считающий себя жертвой опытов КГБ со сверхспособностями.

Но сюжет разворачивается вокруг трёх персонажей. Девушка-программист Лора, компьютерный «гений», потерявшая мать, пишет письма Стиву Джобсу и слышит голоса ангелов в Кремле. Учитель истории Костя, интеллигентный, но вспыльчивый, организовывает в школе античный театр, ставит спектакль о любви. Его несправедливо обвиняют в педофилии, а он нападает на директора. Психолог Саша борется со справедливостью во имя здоровья пациентов, однако сам переживает духовный кризис на почве измены жены, но не желает ничего менять, привыкнув к тупой стабильности. Давно забытое, спрятанное в глубине души, объединяет их и ведёт к настоящей душевной революции и, главное, исцелению. Благодаря книге читатели навсегда усвоят простую истину, помогающую жить среди людей: «чувства — это не симптомы душевной болезни. А вот их отсутствие — симптом».

## ЗАЛ ДЛЯ ЧУЖИХ

«Мы вошли в одну палату, где на кровати в неудобной позе, словно окаменев, как-то вычурно, с поднятой рукой, сидел больной. У него было лицо трупа. Напряжённые, стянутые в хоботок губы, острый нос, но живые, казалось, понимающие глаза. Изменить его позу нельзя было даже силой», — так началась встреча, изменившая сознание молодой студентки медицинского вуза Лидии Богданович, ставшей впоследствии автором книги **«Классические записки психиатра», вышедшей**




**в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».** Спустя год, приближаясь к получению диплома, она твёрдо решила, что станет психиатром и научится возвращать даже самых тяжёлых больных к полноценной жизни.

Не пугайтесь, «Классические записки психиатра» — это не научный труд с обилием терминов для посвящённых, а художественно-документальная проза, сборник небольших увлекательных очерков о людях, оказавшихся «под надзором» психиатрии. Информация, изложенная в издании, уникальна: об этом не написано ни в одном учебнике. Здесь нет чётких рамок и классификаций, ведь человек с его страданиями — куда сложнее.

«У нас ещё широко бытует неправильный, ложный взгляд на человека, лечившегося в психиатрической больнице», — возмущается автор. Пора бы уже усвоить, что лечить нервы и психику — то же самое, что и другие болезни. Не нужно считать это «пятном» в биографии и относиться к отклоняющемуся от нормы как к изгою или монстру. Монстры — те, кто проявляет жестокость и равнодушие.

Каждая строчка в книге Лидии Богданович, словно в подтверждение этих слов, освещена верой в выздоровление пациентов. На её глазах те, кто казался безнадёжным, выходят из стен больницы в ладу с собой — и в очерках это показано ярко и убедительно. Магия? Нет, всего лишь мастерство внимательного, чуткого и тактичного доктора, который и мама, и друг, и лекарь. Психиатры — не такие уж страшные, и обращаться за их помощью не стыдно, поверьте!

Просторный чистый коридор, натёртый до блеска паркет, красивые шторы на окнах, картины на стенах, огромный светло-голубой зал для отдыха с мебелью и цветами — так выглядело отделение «для спокойных больных» советской больницы, где работала Лидия Богданович. «Буйных», как правило, содержали в палатах.

Начинается сборник историй с первых дней врачебной работы автора. «Обладая отличным здоровьем и весёлым нравом», она не боялась ничего на свете, но очень скоро столкнулась с трудностями. Как врачу воспитать в себе терпение, когда пациент откровенно издевается и не желает идти на контакт? Где найти грань между настойчивостью и мягкостью, не навредив словом?

Лидия Богданович не боится критически оценивать свои ошибки и промахи, сетует на свою неопытную вспыльчивость, стремится растолковать все трудности, с которыми неизбежно сталкивается молодой психиатр.

Пациент физик с ясным, как у ребёнка, взглядом и смущённой улыбкой, удивляющий познаниями философских повестей Вольтера, оказывается, открыл способ передачи мыслей на расстоянии, а враги и завистники засадили его в клинику! Всё познаётся в разговорах, даже если внешне люди выглядят спокойными и адекватными. Популярное в быту правило действует и в больнице.

Сероглазый и широкоплечий архитектор, красавец мужчина с полными душевного покоя манерами, на поверку фанатично мечтает построить виллу из розового мрамора недалеко от греческого Акрополя! А ведь человек отлично учился, окончил два факультета, женился, был примерным семьянином. Пока не заболел венерическим недугом, не попробовал целебный травяной настой «тибетского» лекаря и, наконец, спустя годы успешной карьеры, не сошёл с ума. «Однажды вечером, придя домой, он сделал бутерброд из хлеба с… жидким мылом и стал его есть, уверяя жену, что от этого улучшается пищеварение. Его поместили в диспансер. Оказалось, что у больного прогрессивный паралич, следствие давно перенесённого сифилиса, который ведёт к слабоумию», разрушению нервных клеток головного мозга и утрате этических и моральных ориентиров, стыдливости, критики своих действий. Звучит безысходно, не правда ли? Но и это лечится! Через некоторое время, как утверждает Лидия Богданович, пациент выписался, стал разумно оценивать себя и даже стыдиться прежних «заскоков».

А вот другой случай: к психиатру пришёл мужчина, аккуратно причёсанный, одетый в чистую рубашку и тщательно вытюженный костюм, деловитый. Прежде чем сесть, он расстелил на стуле чистый носовой платок — и это уже насторожило доктора. Эпилептическое слабоумие — таков был диагноз. Как в большинстве случаев, «дорога» вела в детство: отец будущего пациента был алкоголиком и тираном.

Не все сумасшедшие считают, что они здоровы — и это ещё один выпад автора книги против расхожего мнения общественности. «Опять нет сна, страх. Едва работаю. Нервы напряжены до крайности. Я замкнулся, отошёл от людей, от коллектива. Готов сам себя избить, но от своих липких мыслей избавиться не могу. Я так любил жизнь и людей! Как тяжело мне с этим расставаться. Но разве можно продолжать жизнь человеку, неполноценному во всех отношениях...» — это отрывок из дневника мужчины, страдающего шизофренным синдромом. Он вполне трезво считает себя больным и по доброй воле обращается к доктору! А вот теперь ответьте на вопрос: где же граница между нормой и патологией?

В книге, написанной ещё в довоенные годы, не обошлось без коммунистической идеологии, но она почти не бросается в глаза — разве что в виде критики западных теорий и повышенного внимания к трудотерапии.

«Психоанализ Фрейда с первых шагов моей практической деятельности потерпел крах», — признаётся Лидия Богданович. И имеет на это полное право. Разве может быть жизненной теория, которая утверждает в человеке не любовь к жизни, а стремление к смерти, а также провозглашает, что воля находится во власти тёмных сексуальных инстинктов, будто одолевающих нас с рождения, как злой рок?

«Классические записки психиатра» подтверждают учение физиолога Павлова, который доказал, что внешняя среда, «госпожа действительность», изменяет живой организм. Человек не находится в слепой власти одной лишь наследственности или «грязного» бессознательного с его «всемогущими» влечениями! Не верите? Дочитайте книгу до конца!

«Классические записки психиатра» — отличный тренинг для всех, кто желает научиться слышать и понимать других, причём не поверхностно, а искренне.

**Мария ВОЙТИК**

### Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Вітрына? Вуліца!

Пры ўсёй нелюбові да халадоў набліжэнне калядных свят мірыць мяне са снежнем. Асабліва прыемна, калі горад пачынае святочна ліхаманіць першымі гірляндамі і ёлачнымі галінкамі над уваходамі ў крамы.

Але нашым дэкаратарам яшчэ шмат чаму варта было б павучыцца. Прахозячы ўздоўж гарадскіх вітрын, лаўлю сябе на думцы, што калі б я была госцем сталіцы, то часам і не здагадалася б, дзе можна купіць новую пару пальчатак, а дзе — сувеніры для сяброў. Але часцей за ўсё спыняюся каля вітрын кнігарняў... Вельмі хочацца верыць у тое, што з часам сітуацыя зменіцца. І справа тут не столькі ў фінансавым складніку: мастакам можна было б прыгадаць, што для творчасці няма нічога больш пагібельнага, чым закасцянеласць.

Вяртаючыся да фінансаў, прывяду просты прыклад, які даказвае, што ўдалая вітрына не заўсёды самая дарагая. У Бялградзе ёсць кнігарня, якую праславіла... самая сапраўдная котка, што жыве ў вітрыне! Яна ўжо даўно стала галоўнай гераіняй многіх артыкулаў і відэарэпартажаў. Кажуць, любы бялградзец ведае гэтую кнігарню. Як бачыце, кошт славы для крамы роўны цане бляшанкі сардзін. Прыкладна па такім жа прынцыпе дзейнічала сёлета варонежская кнігарня «Амиталь». У дзень горада яе вітрыны ператварыліся ў тэатр. На лаўцы сядзіць дзяўчына і чытае кнігу. Міма праходзіць малады чалавек і, залюбаваўшыся ёю, падыходзіць пазнаёміцца. А вось гэтая ж дзяўчына чытае кнігу і п'е гарбату з прыгожага вытанчанага кубка. Проста міні-замалёўкі, але абыякавым не застаўся ніхто.

Несумненна, можна ўкладваць у тэхналогіі, параўнальныя з Ground FX. Тады ваша вітрына ператворыцца ў марскую роўнядзь, па якой то разыходзяцца кругі, то праносяцца ў глыбіні рыбы. Менавіта так у далёкім 2005 годзе паступіла адна з кнігарняў на Манхэтэне. Сутнасць сістэмы складаецца ў тым, што праграма рэагуе на любыя рухі побач з вітрынай. Такім чынам усе патэнцыяльныя наведвальнікі становяцца творцамі. Гэта, вядома ж, займальна. Але ці па такія эмоцыі большасць чытачоў ідзе ў кнігарню? Вітрына кнігарні мусіць вабіць менавіта сэрца, а не розум. Але ўсё будзе залежаць ад гарманічнага балансу паміж дэкаратыўным і сэнсавым складнікамі. Аддаючы перавагу выключна другому кампаненту, мы рызыкуем пераварыць вітрыну ў ідэальны ўзор стагадовай даўніны, калі «...няўяўна забітыя былі вітрыны... кнігарняў. Кнігі стаялі, ляжалі і віселі па ўсёй плошчы вітрыны; шматтомныя выданні складаліся ў стосы і перавязваліся вяровачкай, а калі кнігарня яшчэ гандлявала гравюрамі і літаграфіямі, то яны, умацаваныя канцылярскімі кнопкамі, запар запаўнялі заднюю сценку вітрыны...» Але і надзвычай мастацкія вышукі наўрад ці натхняць патэнцыяльных наведвальнікаў.

Немагчыма не захапіцца еўрапейскай практыкай пашырэння крамы за кошт вынасных латкоў і стэлажоў. Сама вуліца становіцца ідэальнай вітрынай! І такі метад не выклікае ў кнігагандляроў занепакоенасці захаванасцю свайго тавару. Можа, таму што кніга не проста любімая, але і паважаная еўрапейскім чытачом? Дык што ж нам перашкаджае вынесці кнігу насустрач чытачу? У прамым сэнсе.

### Падпіска-2015

# «Вожык»: 2 у 1

**Завяршаецца 2014 год. Міжволі хочацца ўзгадаць яго галоўныя падзеі ды падумаць пра дзень заўтрашні. Чым быў адметны 2014-ы для «Вожыка»? Пра гэта наша гутарка з галоўным рэдактарам часопіса Юліяй Зарэцкай.**

— Мы знайшлі новых сяброў — малдаваніна Васіля Семенюка, які ўмее размаўляць, спяваць і жартаваць па-беларуску, фатографа Аляксандра Зазулю з яго «несур'ёзнымі» здымкамі, студэнтак БДПУ імя Максіма Танка Ганну Кіслушчанка, Ксенію Піўневу, Карыну Пацко, якім падабаецца чытаць, маляваць і пісаць вясёлыя творы, а таксама выпускаць факультэцкі часопіс; Людмілу Ардынскую, якая любіць беларускі народны гумар і культуру; дасціпную Алену Карасёву з арыгінальнымі здымкамі, фотаказкамі і фельетонамі; членаў літаратурна-паэтычнага клуба «Выток» пры Дзяржынскай ЦРБ... Засталіся старыя сябры, якія друкуюцца і выпісваюць «Вожык» гадамі (а некаторыя — і дзесяцігоддзямі!) — пісьменнікі, мастакі, вядомыя творцы.

Напярэдадні 1 красавіка і Чэмпіянату свету па хакеі з шайбай мы адкрылі ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі выстаўку малюнкаў вядомых беларускіх мастакоў-карыкатурыстаў пад назваю «СпARTыўныя ўсмешкі». Цяпер у бібліятэцы № 1 імя Л. М. Талстога дэманструецца выстаўка «Раздавім фашысцкую гадзіну»: ад агітплаката да часопіса сатыры і гумару «Вожык». Калекцыянер і гісторык, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Уладзімір Ліхадзедаў у межах праекта «У пошуках страчанага» прадставіў 20 арыгінальных выпускаў агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» пачынаючы з самага першага нумара.

**— Відаць, шмат было і розных выступленняў?**

— Безумоўна. Рэдакцыя часопіса, няштатныя аўтары — пісьменнікі і мастакі — правялі шмат сустрэч, прэзентацый. Выступалі ў бібліятэках, школах, навучальных установах.

Напрыклад, у сярэдзіне лютага пры падтрымцы грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі» адбыўся сумесны вечар беларуска-малдаўскага гумару «Вожык» і «Кіпэруш»: усміхаемся разам».

У канцы жніўня ў Капылі ў пяты раз прайшоў абласны фестываль гульні і гумару «Капыльскія пацехі», на які прыехалі ўдзельнікі з 15 рэгіёнаў Міншчыны, а таксама госці: жартоўны гурт «Спораўскі акалот» з «брэсцкай» сталіцы гумару — вёскі Спорава Бярозаўскага раёна. Я зноў з задавальненнем была ў журы гэтага фестывалю, назірала за рознымі калектывамі і нумарамі... У выніку дзясяты нумар «Вожыка», дзякуючы падтрымцы Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага аблвыканкама, Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці і аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Капыльскага райвыканкама, выйшаў са спецвыпускам «Капыльскія пацехі» цешаць усіх!» з інтэрв'ю, фотаздымкамі, жартамі, песнямі, прыпеўкамі... Дарэчы, вельмі прыемна, што ўдзельнікі фестывалю часта звяртаюцца да твораў, надрукаваных на старонках нашага часопіса.

**— Чым будзе прывабліваць «Вожык» у наступным годзе?**

— У нас шмат ідэй, задумак, сюрпрызаў. Адкрыю толькі адзін сакрэт: неўзабаве кожны нумар «Вожыка» пачне выходзіць у фармаце 2 у 1 — уласна часопіс і міні-кніжка. Першы выпуск змяшчае каляндар на 2015 год з карыкатурамі і анекдотамі, другі — мужчынска-жаночы (прымеркаваны да адпаведных свят) і г. д.

Чытачы знойдуць на старонках выдання любімыя рубрыкі: «Вернісаж», «Народныя таленты», «Знаёмцеся: маладыя!», «Кнігарня «Вожыка», «Парнаскія жарты», «Мабільны фотапрыкол», «Класікі смяюцца», «Вожык» на сцэне», і многія іншыя. Убачаць карыкатуры, коміксы, фотаздымкі, прачытаюць гумарэскі, былі, пародыі, мініяцюры, іранескі, афарызмы, разгадаюць чайнворды і крыжаванкі...

Выпісвайце «Вожык» — і вы нічога не прапусціце!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Віцебскія пераможцы

Пераможцаў абласнога літаратурнага конкурсу з адпаведнай назвай віншавалі днямі ў Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна.

Арганізатарамі конкурсу выступілі Саюз пісьменнікаў Беларусі, галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі аблвыканкама, гарадскія і раённыя аддзелы ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, абласны камітэт БРСМ, гарадская і абласная бібліятэкі.

Падводзячы вынікі творчага спаборніцтва, старшыня абласной пісьменніцкай арганізацыі Тамара Краснова-Гусачэнка адзначыла: 350 юных аўтараў даслалі на конкурс 1070 паэтычных і празаічных твораў. У намінацыі «Паэзія» ва ўзроставай групе ад 13 да 15 гадоў першае месца было прысуджана адразу шасці пачаткоўцам: Паліне Шчарбіцкай (Полацкі раённы цэнтр дзяцей і моладзі), Івану Гайсёнку (Волатаўская СШ Полацкага раёна), Ірыне Гасымавай (СШ № 40 г. Віцебска), Паўлу Уласенку (Каранеўскі дзіцячы сад — сярэдняя школа Бешанковіцкага раёна), Вікторыі Трусавай (Летчанская базавая школа Віцебскага раёна), Крысціне Герасімавай (Веляшковіцкая СШ Лёзненскага раёна). Адметным дыпломам за 1-е месца адзначана работа 10-гадовай Дар'і Блізняцовай (Браслаўская СШ № 2). Ва ўзроставай групе ад 16 гадоў першае месца прысуджана Анастасіі Ландышка (Навасёлкаўская СШ Пастаўскага раёна).

У намінацыі «Проза» ва ўзроставай групе ад 13 да 15 гадоў першае месца падзялілі Аліса Каспуціс (СШ № 4 г. Наваполацка), Герман Цыро (Верхнядзвінская гімназія), Яна Мітрафанава (Туміловіцкая СШ Докшыцкага раёна). Ва ўзроставай групе ад 16 гадоў перамаглі Вячаслаў Шапавалаў і Дзмітрый Кандакоў (СШ № 1 Полацка), Аляксандра Дармідошына (Бачэйкаўская СШ Бешанковіцкага раёна), Дзмітрый Шэлепень (Палатоўская СШ Полацкага раёна), Ганна Хаваўка (Ветрынская СШ Полацкага раёна), Алена Пшонка (СШ № 3 Лепеля), Міхаіл Альха (СШ № 1 г. Наваполацка).

Падчас урачыстасці свае вершы чыталі члены журы, у склад якога ўвайшлі паэты Барыс Беляжэнка, Вольга Русілка, Мікалай Наменнікаў. Ала Бекішава распавяла пра шматгадовую працу над кнігай, прысвечанай дзецям вайны Віцебшчыны. Верш, напісаны пад уражаннем ад наведвання помніка салдату Перамогі, прачытала дыпламантка конкурсу васьмікласніца віцебскай гімназіі № 8 Наталля Дзянісенка.

**Наталля КОНАХАВА**

# Масток для талентаў

Адзін з панядзелкаў лістапада стаў для першакурснікаў факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка вясёлым і асабліва запамінальным. Супрацоўнікі часопіса «Вожык» завіталі ў вядучую педагагічную ўстанову краіны на сяброўскую сустрэчу з маладым пакаленнем філолагаў. Арганізатар сустрэчы — дацэнт кафедры беларускай літаратуры Наталля Заяц.

Галоўны рэдактар часопіса Юлія Зарэцкая распавяла пра гісторыю выдання, слаўтых аўтараў «Вожыка», зладзіла з першакурснікамі займальную гумарыстычную гульню. Рэдактар аддзела літаратуры Вераніка Мандзік пазнаёміла прысутных з актуальнымі для моладзевай аўдыторыі гумарыстычнымі творамі. Святочны настрой стварыў дэкламаваннем пародый і часты аўтар «Вожыка» паэт Мікола Шабовіч.

Шчырая атмасфера паспрыяла раскрыццю талентаў, адбыўся нават конкурс па складанні бурымэ. Самым творчым студэнтам засталася на ўспамін сатырычная паэма «Тарас на Парнасе», выдадзеная ў серыі «Бібліятэка «Вожыка»» і пастацку афармленая вядомым мастакомкарыкатурыстам Аляксандрам Каршакевічам, намеснікам галоўнага рэдактара. Прысутныя атрымалі ад яго ў падарунак сяброўскія шаржы.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

# Другая — не іншая




Кожную новую паэтычную кніжку разгортваю апошнім часам з трывогай. Падстаў на тое дастаткова. Праўда, у аўтараў ёсць адказ: не хочаш — не чытай. Альбо — не думай...

Пішучы прадмову да выдання, пра якое пойдзе гаворка, я трымаў у памяці вершы з першага зборніка навапалачанкі, якія некалі знайшлі і чытачоў, і станоўчыя водгукі ў перыёдыцы. Таццяна Раманоўская трапна назвала сваю другую кніжку «Дотык душы». У новым зборніку адчуваецца подых усеабдымнага пачуцця і сама жаночая душа — загадкавая, таямнічая і непрадказальная.

Пра што вершы? Калі коратка — пра наш час, любоў, жаночы лёс, сяброў і знаёмых, прыроду — пра ўсё, што вядзе чалавека па жыцці. Лірычная гераіня перакананая, што нельга палюбіць «у меру». Усхвалявана распавядае Таццяна пра блакітны колер вясны, бурштын лета, барву восені і першародны колер зімы, імкнецца да святла, справядлівасці, адпрэчваючы ману, здрадніцтва, сучаснае спажывецтва, самалюбства і славалюбства.

Вершы Т. Раманоўскай простыя, але не працякаватыя. Больш адметныя творы, напісаныя раней і дапрацаваныя ў нядаўні час. Зборнік выйшаў у свет дзякуючы сталічнаму выдавецтву «Кнігазбор».

**Алег САЛТУК**

# Любоў з другога погляду

**Пра «Пана Тадэвуша» гаварылі і пісалі ці не больш за ўсякі іншы спектакль Купалаўскага тэатра. У чым тут справа? Быць можа, у тым, што гэта першая беларуская сцэнічная пастаноўка названай паэмы? Ці ў тым, што пастаноўку гэтую называлі спробай «вярнуць» Адама Міцкевіча Беларусі? Ці ў расчараванні, якое спасцігла перадусім гледачоў-эстэтаў? Яны чакалі ад Пінігіна высокага мастацтва, а атрымалі літаральнае цытаванне паэмы з жывымі ілюстрацыямі.**


Фота з архіва Купалаўскага тэатра

Сцэна са спектакля «Пан Тадэвуш».

Здаецца, менавіта апошняе.

Самай папулярнай характарыстыкай спектакля — як сярод крытыкаў, так і сярод гледачоў — сталася слова «сумна». Прычым у двух сэнсах: сумна як нецікава, зацягнута, статычна — і сумна як тужліва, безвыходна, амаль адчайна.

Наўрад ці Купалаўскі тэатр і Мікалай Пінігін у прыватнасці маюць патрэбу ў адвакатах, але тое, што я збіраюся давесці, мае «адвакацкае адценне».



Сцэна са спектакля «Пан Тадэвуш».

На абодва значэнні абвінаваўчага «сумна» па праглядзе «Пана Тадэвуша» знаходзяцца «контраргументы», якія, зрэшты, прыводзіліся і раней (у прыватнасці, Аляксей Стрэльнікаў сказаў: «Хоць я і імкнуся да аб'ектыўнасці, але мне вельмі і вельмі падабаецца гэты спектакль у сваёй ідэі асветніцкай місіі»).

Апошнія словы — пра ідэю асветніцкай місіі — і становяцца вытлумачэннем (каб не казаць «апраўданнем») статычнасці пастаноўкі, калі героі падаюцца трафарэтнымі і ўрэшце ўзнікае здзіўленне: як гэта магло атрымацца пры такім акцёрскім складзе?.. З шэрагу герояў, падобных адно да аднаго, выбіваюцца толькі Тэлімена і Граф, але справа тут, здаецца, не ў акцёрскім майстэрстве, а ўсё ў той жа зададзенасці: яны і мусілі быць такімі — эксцэнтрычнымі і смешнымі, што ажывіла спектакль у цэлым. Пэўная доля камічнасці стварыла неабходную процівагу патрыятычнай узнёсласці з аднаго боку і трагічнасці самой гісторыі — з іншага.

Канечне, асвета не мусіць быць сумнай — але і тэатр не забаўка.

І не варта пакідаць без увагі сам тэкст Міцкевіча. Настрой і характары задаюцца менавіта ім.

Невыгодны кантраст «Пану Тадэвушу» на першы час стварыла іншая пастаноўка паводле Адама Міцкевіча — «Дзяды», пастаўленая Рамунай Кудзманайтэ («Тэатр Ч»), — спектакль глыбокі і насычаны сімваламі. Безумоўна, пастаноўкі пачалі параўноўваць, што сталася вялікай памылкай. З такім жа поспехам можна было б параўнаць верлібр і дакументальны аповед.

Да ўсяго, «Пан Тадэвуш» таксама не пазбаўлены іншасказальнай прыгажосці. Сцэна з рэкрутамі, сыход ксяндза Робака, бронзавая галава…

Што ў такім разе можна сказаць пра «сумна» ў другім значэнні? Наўрад ці глядач Купалаўскага — невыпадковы, сталы глядач — не ведаў да «Пана Тадэвуша» пра невясёлыя старонкі нашай гісторыі; тут — пра вялікую надзею, якую ўскладала беларуская (ліцвінская) шляхта на Напалеона і крах гэтай надзеі.

Напрошваецца адна выснова: глядач прызвычаіўся бачыць на сцэне Купалаўскага вясёлае, а калі і заходзіць размова пра балючае, то баліць не столькі за Беларусь, колькі за чалавецтва ў цэлым (згадаем яшчэ адну прэм'еру — «Дон-Жуана»).

Ніхто і не казаў, што «Пан Тадэвуш» стане забаўляць і весяліць гледача. Як неаднаразова падкрэслівалася, мэта ставіцца перадусім асветніцкая, праз што мастацкі складнік становіцца другасным — ён саступае публіцыстычна-патрыятычнаму гучанню. Для тэатра ўвогуле гэта наўрад ці добра, але калі размова заходзіць пра такога кшталту пастаноўкі — неабходныя, — даравацьь можна, бо важным становіцца не як (натуральна, у межах разумнага), а што. Цікава, што ў гэтым жа рэчышчы яшчэ да прэм'еры і парыжскіх гастроляў выказваліся і сам рэжысёр, і выканаўцы галоўных роляў Раман Падаляка (Граф) і Павал Харланчук-Южакоў (Тадэвуш).

Сумна гледачу і крытыку ці не, але квіткі на спектакль і сёння, праз дзесяць месяцаў пасля прэм'еры, распрадаюцца задоўга да паказу, а людзі разыходзяцца пасля «Пана Тадэвуша» альбо ўзрушаныя, альбо ў глыбокім задуменні — і задуменне гэтае наўрад ці тычыцца мастацкага боку спектакля.

**Наста ГРЫШЧУК**

# У рытме мадэрну

**Напрыканцы лістапада ў Віцебску з аншлагам прайшоў XXVII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі (IFMC). Акрамя канцэртнай праграмы, адбыліся майстар-класы, выстаўкі фатаграфіі і авангарднага жывапісу.**


Фота БелТА

Пастаноўка «Nil» японскага калектыву Ayaka Habata & Cotaro ITO Dance Company.

У асноўнай конкурснай праграме IFMC-2014 бралі ўдзел 33 калектывы з Арменіі, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі і Японіі. Канкурсанты прадставілі 49 работ, 22 з якіх выйшлі ў фінал.

Цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў і дыпламантаў прайшла падчас урачыстага закрыцця форуму. Калектыў кампаніі Koresh Dance Company з Філадэльфіі адкрыў канцэртную праграму камбінацыяй урыўкаў з некалькіх спектакляў, аб'яднаных ідэяй «Будзем разам». Гэтая думка перагукваецца з агульнай канцэпцыяй сёлетняга фестывалю: пошукі сябе, гармоніі, свету.

Пастаноўка «Nil» (нішто, пустата) японскага калектыву Ayaka Habata & Cotaro ITO Dance Company заваявала сімпатыі ўсіх членаў журы і гледачоў.

— У гэтай працы ёсць усё: і драматургія, і псіхалагізм, і найвышэйшая тэхніка выканання, — патлумачыў выбар журы яго старшыня — мастацкі кіраўнік тэатра «Кіеў мадэрн-балет» Раду Паклітару (Украіна).

Паводле старшыні журы, кіраўніка балета Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Юрыя Траяна, каб максімальна адзначыць лепшых, суддзям прыйшлося пайсці па складаным шляху. На тры працы былі ўганараваны трэцяй і другой прэміямі. Гэта два маскоўскія і два кіеўскія калектывы, праект Сяргея Паяркова і Ігара Нічыпарука з Мінска, а таксама тэатр-студыя сучаснай харэаграфіі Дзіяны Юрчанка з Віцебска. Тэатр танца «O'She» з Волагды стаў лаўрэатам першай прэміі. Былі прысуджаны і спецыяльныя прэміі экспертнага савета. Таксама ўпершыню журы заснавала ўласную грашовую прэмію, якую атрымаў праект Валянціна Ісакова з Гомеля.

Пад заслону гледачоў чакаў прыемны падарунак ад Вялікага тэатра Беларусі — упадабаны публікай балет «Шэсць танцаў».

**Ганна ШЫМУК**

# Каноны кіно

**Маштабная імпрэза адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы: трансліраваліся дакументальныя фільмы маладога айчыннага рэжысёра Аляксандры Шпартавай «Давыд-гарадоцкія каноны» і «Твар».**

«Давыд-гарадоцкія каноны» — 40-хвілінная беларускамоўная стужка, якая летась перамагла на XXII Міжнародным кінафоруме «Залаты Віцязь» (г. Хабараўск) у намінацыі «Дэбют», адзначана на міжнародных кінафестывалях «Магніфікат» і «Свята свету».

Па сутнасці, гэта літаратурная экранізацыя сродкамі неігравога кіно. У аснове кінастужкі — чатыры з дзесяці раздзелаў аднайменнага твора айчыннага пісьменніка Георгія Марчука: «Канон агароду», «Канон Богу», «Канон Гарыні» і «Канон Маці». У ролі апавядальніка выступіў заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Грыцэўскі. Пасля прагляду публіка сустрэлася з пісьменнікам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Георгіем Марчуком.

Фільм «Твар» сёлета атрымаў прызы на Міжнародным маладзёжным кінафестывалі «Свята свету» і на Адкрытым фестывалі дакументальнага кіно «Кунакі», што праходзіў у г. Сухум (Абхазія). Гэтая стужка распавядае пра інтэграцыю культур і жыццёвыя каштоўнасці. Таццяна Шпартава, маці Аляксандры і прадзюсар фільма, назвала карціну «нягучным лірычным фільмам без вострых калізій, але з глыбіннай драмай чалавечага жыцця». Музыку да фільма на аснове кітайскіх народных мелодый напісаў брат Аляксандры — піяніст і кампазітар Піліп Шпартаў.

Галоўны герой — кітайскі паэт, каліграф, выкладчык Белдзяржуніверсітэта Лі Цзо — распавядае тут пра сваіх студэнтаў, раскрывае розніцу паміж усходняй і заходняй паэзіяй, чытае ўласныя вершы, сярод якіх — і паэтычныя разважанні пра шчасце.

У здымках удзельнічалі жонка і сын спадара Лі Цзо. Патрапіла ў кадр і кітайская чайная цырымонія, да правядзення якой актыўна спрычынілася гаспадыня сталічнай чайнай студыі і госця імпрэзы Алёна Вялічка. А галоўны дырэктар радыё «Беларусь», паэт Навум Гальпяровіч, які таксама завітаў на вечарыну, распавёў гледачам пра наладжанае ў Беларусі радыёвяшчанне на кітайскай мове, якое вядуць толькі грамадзяне Кітая. Чатыры гады таму спадар Лі Цзо паспрыяў старту вяшчання.

Пасля публіку чакала канцэртная праграма: некалькі песень, у тым ліку і на рускай мове, выканаў сын Лі Цзо — Лі Шэнь. А сам галоўны герой фільма разам з жонкай Лу Інчуэнь праспяваў па-руску песню «Дарожанька». У выкананні перакладчыка гучалі таксама перастораныя па-кітайску вершы Янкі Купалы. Напрыканцы сустрэчы дырэктар музея Алена Ляшковіч уручыла спадару Лі Цзо дыплом сябра музея. Творца ж падарыў установе адну са сваіх каліграфічных работ.

**Яна ЯВІЧ**

# На радзіме Язэпа Семяжона

Чарговае літаратурнае падарожжа на Смалявіцкую зямлю — у вёску Пятровічы, на радзіму выдатнага паэта-перакладчыка Язэпа Семяжона — зладзіла дэлегацыя пісьменнікаў і творчай інтэлігенцыі. Падзеі паспрыяла супрацоўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

Узначаліў творчую дэлегацыю першы сакратар СПБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Генадзь Пашкоў. Генадзь Пятровіч выказаў словы ўдзячнасці перакладчыку, які «вярнуў» нам Міколу Гусоўскага і Адама Міцкевіча. Падтрымалі яго думку паэты Анатоль Зэкаў, Іна Фралова. У іх выкананні прагучалі раздзелы паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» і ўласныя вершы. Супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка распавяла пра дзейнасць установы.

Расчулена распавядала пра бацьку дачка перакладчыка Наталля. Спадарыня Наталля ўспаміналa, што бацька быў чалавек шчыры: дзверы іх гарадской кватэры ў літаральным сэнсе «не зачыняліся» ад вясковых хадакоў, якія шукалі дапамогі ў земляка; а выхаванцу Суворaўскай вучэльні, што ў цяжкія пасляваенныя гады засталіся без бацькоўскай апекі, выкладчык Язэп Семяжон атуляў амаль бацькоўскім клопатам. Мастак Святаслаў Федарэнка, які намаляваў партрэт паэта, распавёў пра даўнія творчыя сувязі з музеем, пра асабістыя сустрэчы і творчае сяброўства з Язэпам Семяжонам. Слова бралі і выкладчыкі суворaўскага вучылішча.

Вынікам даследавання творчасці Язэпа Ігнатавіча стаў фільм Ірыны Лапцёнак. Аздобілі мерапрыемства музычныя нумары, выкананыя выхаванцамі Суворaўскага вучылішча, калектывамі сталічнай школы № 43, мясцовым фальклорным гуртом «Рэчанька», які падрыхтаваў некалькі песень на словы запрошанага паэта Івана Цітаўца.

З нагоды юбілею паэта-перакладчыка была пагашана адмысловая марка, выдадзеная РУП «Белпошта».

Вартыя ўвагі тыя, хто стаяў ля вытокаў музея. Былы загадчык бібліятэкі Ніна Лукашонак і настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 43 горада Мінска Таццяна Апацкая і сёння прыкладаюць шмат намаганняў па зборы інфармацыі.

Ушанаваць памяць славутага земляка сабраліся ці не ўсе жыхары Пятроўшчыны. На жаль, не было прадстаўнікоў мясцовых улад. А ў выступоўцаў назбіралася шмат пытанняў, якія датычацца закрыцця мясцовага клуба. Па словах жыхароў, гэта адзіная ўстанова, дзе існуе культурнае жыццё вялікай вёскі: дзіцячы садок і школа ўжо не працуюць. У клубе месцяцца бібліятэка, калектыў народнай песні «Рэчанька», музей Язэпа Семяжона і Эдуарда Карскага.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Каб быў пераклад паэтычным

**16 лістапада споўнілася сто гадоў з дня нараджэння перакладчыка Язэпа Семяжона. Як вызначыла даследчыца Ірына Лапцёнак, «узноўленыя ім творы існуюць у арыгінале на 34 мовах свету». Між перакладаў Я. Семяжона — вершы Джорджа Байрана, Роберта Бёрнса, паэмы «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, санеты і драматургічныя творы Уільяма Шэкспіра.**



*Язэп Семяжон. 12 лютага 1946 г.*



*Еўдакія Лось, Язэп Семяжон, Уолтэр Мэй.*

## ...Прызнаваліся ў каханні перакладамі

Юбілей перакладчыка быў адзначаны ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі. На літаратурным вечары гучалі ўспаміны пра першае знаёмства з творчасцю Язэпа Семяжона і, вядома, вершаваныя радкі. Пра жыццё і творчасць перакладчыка распавядалі літаратуразнаўцы Вячаслаў Рагойша, Міхась Кенька і Анатоль Верабей.

Яшчэ да паступлення на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута Язэп Ігнатавіч ведаў польскую, нямецкую і французскую мовы. Апошнюю вывучыў у тагачасным Трэцім беларускім дзяржаўным тэатры, дзе ў 1932 — 1934 гг. быў акцёрам. Захапленне тэатрам прыдалося потым не менш за веданне мовы: як заўважыла І. Лапцёнак, «пры ўзнаўленні драматычных твораў Язэп Семяжон абапіраўся не толькі на свой перакладчыцкі густ, але і на ўласны акцёрскі вопыт, дзякуючы якому ён дакладна ўзнаўляў індывідуальнасць кожнага вобраза, мову і характар персанажа — з улікам сцэнічнага пераўвасаблення».

Маючы выдатныя здольнасці, будучы перакладчык авалодаў іспанскай, шведскай, дацкай, галандскай, італьянскай ды іншымі замежнымі мовамі — з уласнай цікавасці, а часам па збегу жыццёвых абставін. З 1938 па 1959 г. служыў у Чырвонай Арміі, з 1953 г. быў старшым выкладчыкам замежных моў у Мінскім суворaўскім вучылішчы. М. Кенька адзначыў, што Язэп Ігнатавіч вельмі клапатліва ставіўся да курсантаў, якія ў час вайны страцілі сям'ю, і выпускнікі першых набораў вучылішча захавалі добрую памяць пра яго як чалавека і настаўніка. У 1961—1975 гг. Язэп Семяжон выкладаў замежныя мовы на філалагічным факультэце БДУ — і сённяшнія выкладчыкі факультэта з прыемнасцю згадвалі яго лекцыі. А перакладамі Семяжона, па словах А. Вераб'я, тагачасныя студэнты зачытваліся — цытавалі іх, прызнаваліся імі ў каханні...

## Па-першае — паэтычнасць

Язэп Семяжон пачынаў літаратурную творчасць з уласных вершаў. Першы паэтычны твор быў апублікаваны ў сямнаццаць гадоў, а ў 1938 годзе на старонках «ЛіМа» быў змешчаны пераклад з Джорджа Байрана. Рэгулярна публікавацца творца пачаў з 1955 года. Як прыгадаў В. Рагойша, які быў блізка знаёмы з перакладчыкам, Я. Семяжон заўсёды казаў, што паэзію трэба перакладаць паэзіяй, мастацтва — мастацтвам. І сам дзейнічаў адпаведна.



*Максім Танк і Язэп Семяжон. 1960-я.*

«У перакладзе павінна быць дакладнасць, але пры ўсёй сэнсавай адэкватнасці, калі ў перакладзе няма паэзіі, твор атрымаецца бездапаможным. З іншага боку, ёсць перакладчыкі, якія працуюць «па матывах». Іх пераклады добра чытаюцца і нават уражваюць, але часам далёкія ад першакрыніцы, — падзяліўся разважаннямі В. Рагойша. — Самае складанае ў перакладзе — спалучыць сэнсавую адэкватнасць і паэтычнасць. У Семяжона на першым месцы заўсёды была паэтычнасць, дзеля якой ён мог ахвяраваць, напрыклад, колькасцю радкоў. Так, у паэме «Пан Тадэвуш» больш радкоў, чым у арыгінале, за што Семяжона часам папракалі. Але трэба ўлічваць, што сілабічныя вершы польскіх паэтаў мы перакладаем сілаба-тонікай, больш звыклай для беларусаў. Да таго ж кожная мова мае свой сярэдні аб'ём слова. Так, англійская мова больш лаканічная за славянскія, а калі параўнаць блізкародныя беларускую і рускую мовы, дык том кароткай пяцітомнай «Энцыклапедыі БССР», выдадзены на беларускай мове, заўсёды на некалькі старонак меншы за рускамоўнае выданне. Былі папрокі ў тым, што пры перакладзе «Песні пра зубра» Семяжон таксама адступаў ад арыгінала, але менавіта пасля яго перакладу гэты твор загучаў, увайшоў у хрэстаматыі, пачаў вывучацца ў сярэдняй школе. Хаця і да гэтага пераклады былі — на рускую мову, на беларускую Уладзіміра Шатона (больш дакладны, але не такі паэтычны). Перакладчыкі — такія ж майстры, як аўтары арыгінальных твораў, і, вядома, перакладчыкі аднаго твора заўсёды спаборнічаюць між сабой. Дай бог, каб на Беларусі з'явіліся творцы, якія па майстэрстве пераўзыдуць Язэпа Семяжона!»

## Даследчыкі, сябры, канкурэнты

Міхась Кенька прыгадаў цікавыя водгукі пра творчасць Семяжона ад замежных літаратуразнаўцаў. Так, Семяжон і Самуіл Маршак, па сутнасці, адначасова працавалі над перакладамі паэзіі Роберта Бёрнса. Пераклады Самуіла Маршака выклікалі захапленне, а творчы даробак Семяжона заставаўся крыху ў цені. Але англійскі паэт, перакладчык і літаратуразнаўца Уолтэр Мэй у час наведвання Мінска зазначыў, што пераклады Семяжона атрымаліся лепшымі. Магчыма, адпаведнай апынулася сама мова, бо беларуская ў адносінах да рускай больш заземленая, а Бёрнс — гэта паэзія вёскі.

Незабыўная сустрэча адбылася, калі ў Мінск прыязджала польская даследчыца Зося Скібіньская, якая пісала пра пераклады «Пана Тадэвуша». Яна распытвала Семяжона пра перакладчыцкую дзейнасць, а ён чытаў урыўкі са свайго перакладу паэмы — настолькі артыстычна і выразна, што выклікаў захапленне даследчыцы. У дысертацыі З. Скібіньска пазначыла: «рамантычны пераклад Язэпа Семяжона». Рамантыкам быў і Міцкевіч, таму такую характарыстыку можна ўспрымаць як камплімент.

Анатоль Верабей прыгадаў, што адначасова з выкладаннем моў у БДУ Язэп Семяжон працаваў у рэдакцыі часопіса «Беларусь» — і далучыў да перакладчыцкай працы Уладзіміра Караткевіча. Для дзявятага нумара «Беларусі» за 1964 год Семяжон падрыхтаваў да друку лепшае апавяданне Караткевіча «Сіняя-сіняя».

Паэт-перакладчык, выкладчык, рэдактар, Я. Семяжон працаваў у розных кірунках, у тым ліку не абмінаў публіцыстычную дзейнасць. Шматлікія ўласныя артыкулы па перакладазнаўстве збіраўся выдаць асобнай кнігай. У час панавання ў мастацкім перакладзе тэндэнцыі «фармалізму» Я. Семяжон неаднойчы абгрунтоўваў у друку свае творчыя перакананні: быць не перакладчыкам-рамеснікам ці капіістам, а «перастваральнікам вобразнага мыслення», «інтэрпрэтатарам-адкрывальнікам».

## Адметнасць творчай індывідуальнасці

Творчай спадчыне Я. Семяжона пашанцавала на добрага даследчыка. У навуковай манаграфіі «Паэт-перакладчык Язэп Семяжон: адметнасць творчай індывідуальнасці» (2010) Ірына Лапцёнак (Лавар) уважліва аналізуе ўзноўленыя Семяжонам тэксты, звяртаецца да яго нарысаў, артыкулаў, аўтакаментарыяў. Здольнаму літаратуразнаўцу шчасціць на знаходкі. Так, даследчыца выявіла, што насуперак агульнаму ўяўленню перакладчык час ад часу пісаў і ўласныя вершы. У гады Другой сусветнай вайны гэта былі лірычныя рускамоўныя творы, у пасляваенны перыяд — эпіграмы, якія друкаваліся ў часопісе «Беларусь».

Супастаўленне перакладу і арыгіналу, перакладаў некалькіх аўтараў дае магчымасць абгрунтавана вызначыць паспяховасць абранай Семяжонам мастацкай стратэгіі — «з узважаннем тых умоў, у якія перакладчыка ставіць патрабаванне адэкватнасці, і тых магчымасцей, якія могуць быць яму прадастаўлены асаблівасцямі канкрэтнага мастацкага твора, уласнай творчай індывідуальнасці і айчыннай сістэмы вершавання». Аднак для І. Лапцёнак не ўласціва абсалютная закаханасць у аб'ект даследавання, вельмі распаўсюджаная ў беларускім літаратуразнаўстве. Так, на старонках манаграфіі звяртаецца ўвага на цяжкасці з перакладаннем асобных твораў (напрыклад, паэзіі Ю. Славацкага), а пытанне «адэкватнасці ўзнаўлення Язэпам Семяжонам рытміка-інтанацыйных асаблівасцей «Песні пра зубра» на фоне максімальна набліжанага да арыгінала перакладу У. Шатона» прызнаецца даследчыцай як дыскусійнае.

У рабоце І. Лапцёнак шмат увагі надаецца супастаўленню рытмічных схем, адметнасці перадачы рыфмікі, своеасабліваму падыходу перакладчыка да ўзнаўлення тропікі. Разам з тым яе манаграфія — выдатная магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй стварэння знакамітых паэм «Пан Тадэвуш» і «Песня пра зубра», ацэнкай гэтых перакладаў беларускімі пісьменнікамі і даследчыкамі. У дадатку прадстаўлены перакладныя творы Я. Семяжона, у тым ліку некаторыя неапублікаваныя тэксты, у прыватнасці ўрыўкі перакладу паэмы «Шыльёнскі вязень» Дж. Байрана.

Варта пагадзіцца з В. Рагойшам: творчы набытак Язэпа Семяжона застаецца актуальным і сёння.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**фотаздымкі з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

Беларусь — Кітай

# Вітаем кітайскую літаратуру!

**У другой дэкадзе лютага 2015 года ў Мінску адбудзецца традыцыйны кніжны кірмаш-выстаўка. Ізноў да нас прыедуць кнігавыдаўцы і пісьменнікі з самых розных краін свету, а пачэснае месца зойме Кітайская Народная Рэспубліка. Вядома, стэнд ганаровага госця выстаўкі будзе самым прадстаўнічым.**

### ШТО БЫЛО Ў СЕРБІІ

Няма ніякіх сумненняў, што Кітай прывязе ў Беларусь процьму кніжных навінак. Нядаўна давялося назіраць за адказнай працай кітайскіх кнігавыдаўцоў, пісьменнікаў на выстаўцы ў Сербіі, дзе плошча іх нацыянальнага стэнда складала 1000 квадратных метраў. Уражвалі падборкі кніг самага рознага кірунку: пазнавальная літаратура пра краіну, фотаальбомы, даведнікі, слоўнікі… Велізарная колькасць каталогаў. У фарміраванні кітайскага стэнда ў Бялградзе прымалі ўдзел і арганізатары з сербскага боку. Інстытут Канфуцыя прадставіў свой альманах, што выходзіць у Бялградзе на працягу некалькіх гадоў і адлюстроўвае ўсе здабыткі кітаязнаўства ў гэтым рэгіёне. Галоўная бібліятэка краіны сабрала выданні кітайскай літаратуры на сербскай мове, здзейсненыя на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Спецыяльна да выстаўкі былі выдадзены раманы Мо Яня ў перакладзе на сербскую мову. Па ўсім бачна, у Сербіі сур'ёзна рыхтаваліся да сустрэчы з кітайскім прыгожым пісьменствам. Гэтаму, пэўна, спрыялі і даўно адладжаныя стасункі паміж літаратурамі і выдаўцамі далёкіх краін.

### ШТО БУДЗЕ Ў НАС?

Так, прыйдуць і да нас, у Мінск, кітайскія выдаўцы. Іх стэнд прыцягне найперш тых, хто ведае кітайскую мову альбо займаецца яе вывучэннем. Але як быць з прадстаўленнем кітайскай мастацкай літаратуры на беларускай і рускай мовах? У Маскве, Санкт-Пецярбургу працуе некалькі выдавецтваў, якія займаюцца ўсходазнаўчымі праектамі, і, быць можа, яны прывязуць у Мінск новыя выданні кітайскай літаратуры на рускай мове. Пэўна, беларускія арганізатары запросяць іх да работы на мінскай кніжнай пляцоўцы. Больш складаная сітуацыя з айчыннымі выдавецтвамі. Міністэрства інфармацыі нашай краіны правяло папярэднія перамовы з кітайскім бокам. Так, у лютаўскіх гасцей ёсць жаданне працаваць з разлікам на Беларусь, беларускага чытача. У Кітаі складзена адмысловая, вельмі лаканічная (калі браць увогуле гістарычныя і сучасныя абсягі кітайскай літаратуры) праграма па знаёмстве з іх нацыянальнымі кніжнымі здабыткамі ў свеце. У Расіі гэта праграма ўжо часткова рэалізуецца.

Што на сённяшнім этапе складае «залаты фонд», адабраны самімі кітайцамі, праз які магчыма адкрыць іх мастацкую літаратуру, спасцігнуць сутнасць жыцця ў Паднябеснай, яе гісторыю, нацыянальную культуру, псіхалогію кітайцаў?.. І ці магчыма гэта ўвогуле: некалькімі кнігамі вырашыць такую складаную задачу? Ці адважыўся б хто ў нас, у Беларусі, абмежаваць расповед пра народ і Айчыну двума дзясяткамі кніг ці таго меней?.. Пытанне складанае. І перш чым пачаць шукаць адказы на яго, да чаго я ўсяго толькі запрашаю чытачоў, ні ў якім разе не беручы на сябе такой адказнасці, давайце пазнаёмімся з прапановамі кітайцаў да Беларусі. Падрыхтаваны праект (усё ж такі пакуль што праект!) носіць назву «Бібліятэка кітайскай літаратуры ўзаемнага выдання кітайскай і беларускай мастацкай літаратуры Кітая і Беларусі».

### ЗАЛАТЫ ФОНД

У пералік прапанаваных да перакладу твораў уваходзяць 25 назваў: «Сон у чырвоным цераме» Цаа Сюэ-ціня, «Трохваладаранне» Ло Гуань-чжуна (па-руску — «Троецарствие»), «Рачныя затокі» Шы Най-ань, «Неафіцыйная гісторыя канфуцыянцаў» У Цзін-цзы, «Запіскі аб кацыным горадзе» Лаа Шэ, «Метамарфозы, ці Гульня ў складныя карцінкі» Ван Мэна, «Кветкі бавоўны» Це Нін, «Слёзы — золата» Хэ Цзяньміна, «Выбраныя творы» Чжан Саньляна, «Стаміўся нараджацца і паміраць», «Вялікія грудзі, шырокі зад», «Краіна віна», «Чырвонае гаалян» Мо Яня, «Дзівакі» Фэн Цзіцая, «Кітайцы (мая краіна, мой народ)» Лінь Юйтана, «Сорак трэцяя старонка. Кітайская проза XXI стагоддзя», «Памежны гарадок» (кніга аповесцей розных аўтараў), «Энцыклапедыя Кітая», «Баявое мастацтва Шаалінськага манастыра», «Опера Месяца» Бі Фэюй, «Жанчына — палова мужчыны» Чжан Саньляня, «Апошні імператар» Су Туня, «Абложаная крэпасць» Цяня Чжуншу.

Спіс даволі прадстаўнічы. Тут і мастацкае слова, і адлюстраванне развіцця кітайскага грамадства ў розныя гістарычныя часы, і погляд на рэчаіснасць сучасных мастакоў слова, і кароткі энцыклапедычны, гісторыка-сацыялагічны погляд на Кітай і кітайцаў (як прыклад — кніга «Кітайцы…» Лінь Юйтана), ёсць нават кніга, якая будзе цікавая майстрам кітайскага баявога мастацтва. Усе яны перакладзены на рускую мову. З імі можна пазнаёміца па выданнях апошніх гадоў (хаця некаторыя рэчы перакладзены на рускую яшчэ ў 1950-я гг., як, напрыклад, легендарны раман «Трохваладаранне»), здзейсненых у Маскве, Санкт-Пецярбургу — выдавецтвамі «Азбука», «КАРО», «Известия», «Амфора», «АСТ», «Астрель-СПб», «Издательство восточной литературы» і інш. Іншыя кнігі ў бліжэйшы час толькі пабачаць свет. У любым выпадку, у рускай моўнай стыхіі Кітай прадстаўлены дастаткова сур'ёзна. Расія ўважлівая да кітайскага мастацкага свету.

### ЯШЧЭ ПЫТАННІ

Ці здолеюць нашыя перакладчыкі, нашыя кнігавыдаўцы прайсці гэтым шляхам? Узнікае праблема: ці варта ўсё перакладаць на беларускую? Хаця б з улікам таго, што ў Беларусі шырокі спажывец у істотна большай ступені знаёміцца з такой літаратурай на рускай мове, а кніжны рынак Расійскай Федэрацыі адкрыты для нас напоўніцу. На мой погляд, перакладчыкі перш-наперш маглі б звярнуцца да класікі — як у паэзіі, так і ў прозе. Гэта спрыяла б і развіццю ўласна беларускай мастацкай школы перакладу.

Безумоўна, стасункі беларускай і кітайскай літаратур патрабуюць развіцця. Калі азірнуцца назад, аглядаючы ўвесь папярэдні вопыт, то ў частцы прадстаўлення кітайскай літаратуры ён не такі ўжо і багаты. Так, быў усплёск канца 1940 — 1950-х гадоў, калі нараджэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі справакавала ўвагу да кітайскай літаратуры. У наступныя дзесяцігоддзі былі ў асноўным звароты да кітайскай паэзіі. Лі Бо, Ду Фу, Цынджаа Лі — вершам толькі трох кітайскіх паэтаў знайшлося месца ў прадстаўнічай анталогіі паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя. Але нават калі сабраць разам усе пераклады кітайскай паэзіі, збор атрымаецца досыць кволы.

З прапанаванага кітайскім бокам праекта вылучаецца наш сучаснік — Мо Янь. Чатыры яго кнігі — у рэкамендацыйным спісе. У 2012 годзе пісьменнік стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. У раманах «Стаміўся нараджацца і паміраць», «Вялікія грудзі, шырокі зад», «Краіна віна», «Чырвонае гаалян» ёсць усё: і кітайскі фальклор, і міфалагічнасць, і містыка, і жаданне распавесці свету пра кітайцаў сённяшніх. Як мне ўяўляецца, перакладчыцкая работа над гэтымі творамі не можа не прынесці асалоду. А таму, хто возьмецца за гэтую працу, дасць яшчэ немалы мастацкі досвед арыгінальнай работы празаічнага характару. Дарэчы, у беларускай традыцыі была і такая практыка перакладчыцкай дзейнасці, калі за засваенне мастацкай прозы ў новай моўнай прасторы браліся два перакладчыкі: адзін — з вопытам уласнай літаратурнай работы, другі — з бліскучым веданнем мовы арыгінала. Як прыклад — пераклад у Беларусі (спярша — для часопіса «Нёман») на рускую мову рамана Габрыеля Гарсія Маркеса Карласам Шэрманам і Валянцінам Тарасам. На беларускую, такім чынам, некалькі твораў з кітайскай пераклалі Міхась Котаў і Рыгор Кашуба (апошні — перакладчык з арыгінала).

Высокае мастацтва перакладу — шырокая дарога для трывалых стасункаў народаў і краін. Без разумення мастацкай літаратуры Кітая, без асэнсавання сімвалаў і вобразаў, якія нарадзіліся за стагоддзі ў свядомасці кітайцаў, шмат складаней разлічваць на шырокае і прадстаўнічае партнёрства ў галіне палітыкі і эканомікі з краінай, якая, маючы багатую гісторыю, выяўляе імклівы рух наперад.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Складалі праўдзівыя песні...

Нагайская паэзія — неабсяжная прастора. У перакладах Рагнеда Малахоўскага па-беларуску гучыць, зіхацць рознымі пераліваімі і адценнямі толькі невялікая частачка мастацкай спадчыны гэтага дзіўнага і багатага на гісторыю і культуру народа. Шал-Кііз Циленшы Улы, Ажы-Мала Нагман Улы, Саркынбай Крымлы, Асан Кайгылы — за кожным з гэтых мастакоў слова свая эпоха, свае перакананні і свае шуканні. У многім яны падобныя, хаця і належаць вершы паэтам розных стагоддзяў (першы са згаданых нарадзіўся ў пачатку XV ст., а найбліжэйшы да нас Ажы-Мала Нагман Улы — у 1887 г.): творцы складалі праўдзівыя песні. Яны бачылі долю свайго народа, імкнуліся да шчырасці і яснага выкладання самых складаных праблем часу. Мо таму і засталіся іх вершы ў свядомасці нагайскага народа, у сучаснай яго культуры праз такія доўгія абсягі часу?

**Кастусь ХАДЫКА**

## Ажы-Мала Нагман Улы (1887 — 1930)

***

*Няма ў гэтым свеце праклятым*
*Паэту спакою.*
*А ў свеце без цяжкасцей*
*Як жа Паэту пражыць?*
*Без смутку ніяк не складзеш ты*
*Праўдзівае песні.*
*Калі загартуюць нягоды —*
*Спазнаеш жыццё.*
*Калі заспяваеш —*
*Ты сябру свайму дапаможаш.*
*А што паміж аркушам*
*І адзічэлым пяром —*
*Сумленна напішаш —*
*Наўрад ці цябе ўзнагародзяць.*
*А дрэнна напішаш —*
*То тварам сваім рызыкнеш.*
*Пішы лепш, паэт,*
*Толькі самую чыстую праўду.*
*Ты вечна засмучаны*
*І задуменны, паэт.*
*Нягод і самоты*
*Ў бязлітасным лёсе — нямала.*
*А плошча ці стэп —*
*Твая сцэна*
*І ты на ёй — Бог.*
*Але ўзнагарод не чакай,*
*Як і манны ад Бога.*

## Шал-Кііз Циленшы Улы (1420 — …)

***

*У сведкі клічу я сяброў —*
*Вы ўспомніце пасля,*
*Што я сказаў — сярод людзей,*
*Той дурань з доўгім языком*
*На ўсіх нашле бяду.*
*А той, хто славіць будзе*
*Жыццё свайго народа,*
*Хоць і памрэ, ды песня*
*Ў стагоддзях застанецца.*
*Не стане вас, памру і я,*
*Не маем несмяротных.*
*Ды ўсім, хто будзе пасля нас, —*
*Святло хай думак нашых*
*І песень нашых след*
*Навечна застанецца,*
*І вы тады ўсё скажаце*
*І праспяваеце за нас!*

## Саркынбай Крымлы (XVIII ст.)

***

*Мурзы прадаліся за золата,*
*Крымскіх садоў цень,*
*Радзімы куманоў шаты.*
*Берагі тут пакатыя,*
*Землі ўрадлівыя.*
*З аднаго боку —*
*Хуткая вада шуміць.*
*З іншага боку*
*Лёгкі чарот шуміць.*
*І жылі мы тут,*
*Як часткі Ўсявышняга.*
*Прадажныя мурзы*
*Купіліся на золата ворага.*
*І крымскія нагайцы*
*У крыві сваёй памыліся.*
*Турэцкія падлашахі*
*Людзей сваіх растрацілі.*
*Подлыя ашуканцы,*
*На наш народ паквапіліся.*
*І клічуць зараз нас:*
*«Маўляў, перяязджайце да нас…*
*У горад Стамбул…»*
*У рабства клічуць.*
*Некаторыя разгубіліся,*
*Паддаліся на ўгаворы,*
*Як быццам на чужыне*
*Чакае іх салодкае жыццё.*
*Не верце ўгаворам,*
*Не падпарадкоўвайцеся —*
*На чужыне чакае вас голад,*
*Знявага і галеча.*
*Турэцкая зямля —*
*Адзін суцэльны камень.*
*Няма тут ні паш,*
*Ні проста травы.*
*Няма дзе зямлю араць,*
*Няма куды насенне кінуць.*
*І шматлікія туркі*
*Будуць вас зневажаць,*
*Станеце рабынямі,*
*Якія страцілі шчасце.*
*Лепш хадзем у горы,*
*Да падножжа Эльбруса,*
*Там, дзе моцныя нагайцы,*
*На багатую зямлю Кубані,*
*На ўрадлівую зямлю Кумы.*
*Не дазволім тантаць*
*Наш нагайскі народ.*
*Багацце роднай зямлі*
*Не аддадзім туркам.*
*Ля падножжа Эльбруса,*
*Там, дзе Кубань і Кума,*
*Збяром джыгітаў*
*Цэлае войска*
*І прадажных мурзаў*
*Разам з туркамі*
*Пагонім з роднай зямлі.*
*Пральём іх кроў,*
*Знішчым ворагаў.*

## Асан Кайгылы (XV — XVI стст.)

***

*Чысты, светлы*
*Каштоўны камень —*
*Ён на дне марскім*
*Стагоддзямі ляжыць.*
*Чыстыя ўзнёслыя думкі —*
*Крыюцца*
*У пакутлівых роздумах.*
*Чысты, светлы*
*Каштоўны камень*
*Толькі штормам*
*Вынесе на бераг.*
*Чыстыя ўзнёслыя думкі*
*Толькі болем*
*Праўдзівым народзяцца.*

**Пераклад з нагайскай Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА**

# Лубок па-в'етнамску

**З нагоды візіту дэлегацыі Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам у Рэспубліку Беларусь Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадставіў выстаўку твораў майстроў XX стагоддзя «В'етнамская народная карціна».**



*Барцы. 1960-я гг.*

Народныя карціны (лубок), што з'явіліся ў В'етнаме ў перыяд дынастыі Чан (1226—1400), да канца XIX — пачатку XX стагоддзя становяцца адным з асноўных відаў нацыянальнага мастацтва. Карціны ствараліся ў многіх вёсках Паўночнага В'етнама, былі даступныя па кошце нават селяніну. Да сярэдзіны XX стагоддзя іх вытворчасць засярodзілася ў вёсцы Донгха правінцыі Бакнінь (раней Хабак), дзе склаўся своеасаблівы вясковы тып народнага лубка. Карціны друкаваліся да свята Новага года (па месяцовым календары) і называліся «чань тэт» («навагодняя карцінка»). Гэтыя каляровыя ксілаграфічныя малюнкі выконваліся на спецыяльнай валакністай паперы «кэй зо» (выраблялася з мясцовай сыравіны — арлінага дрэва, аквілярыя). На вытворчасць фарбаў ішоў попел лісця бамбука, саломы (чорны колер), кара дрэва «дып» (белы), жоўты камень (чырвоны), кветка сафоры (жоўты), індыганоска (блакітны), медная ржа (зялёны). Вытворчасцю карцін займалася звычайна ўся сям'я: драўляныя клішэ, сакрэты вытворчасці фарбаў перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Адметная рыса лубкоў Донгха — каляровы фон, які атрымліваўся даданнем да фарбавальніка адвару клейкага рысу, змяшанага з парашком пакрышаных марскіх ракавін. Такое пакрыццё рабіла паперу больш трывалай, а перламутр надаваў карціне лёгкае мігценне.

Мастацкая стылістыка лубкоў была традыцыйная: асноўная роля адводзілася выразнай контурнай лініі і яркім каляровым плямам. Кампазіцыя выстройвалася наглядна і лаканічна: у цэнтры аркуша змяшчаліся адна або некалькі шчыльна скампанаваных фігур (бостевы, людзі, жывёлы або прадметы). Другарадныя персанажы і дэталі, што замянялі агульнаму ўспрыманню, апускаліся. Часам кампазіцыя суправаджалася тлумачальнымі надпісамі побач з кожным персанажам або ўверсе. Сярод разнастайнасці лубкоў можна ўмоўна вылучыць наступныя тэматычныя групы: рэлігійныя, з добрымі пажаданнямі, ахоўныя, гістарычныя і літаратурныя. Да асобнай групы лубкоў адносіліся прадстаўленыя на выстаўцы карціны з выявамі жывёл дванаццацігадовага каляндарнага цыкла: пеўня, свінні, мышы, ката, дракона ды інш. Значнае месца адводзілася і жанраваму лубку са сцэнамі сельскага жыцця: збіранне какосаў, ворыва, святочнае шэсце з драконам.

Разам з традыцыйным вясковым лубком з другой паловы XIX стагоддзя ва ўмовах гарадскога асяроддзя складаецца ханойскі тып лубка як вынік зліцця народных і класічных традыцый. У адрозненне ад вясковага лубок гарадскі, як правіла, меў форму жывапісных скруткаў. Малюнак, што друкаваўся з драўляных контурных клішэ, дапаўняўся роспісам ад рукі натуральнымі або анілінавымі фарбавальнікамі. У гарадской карціне далейшае развіццё атрымалі традыцыйныя матывы: іерагліфічныя надпісы-пажаданні, прыгожыя кампазіцыі «Чатыры пары года», «Кветкі і птушкі». Значную частку лубкоў складалі серыі з двух, чатырох або шасці скруткаў на тэмы папулярных літаратурных твораў. Сярод апошніх — прадстаўлена на выстаўцы серыя скруткаў «Паданне аб Тхаць Сань», «Падарожжа на Захад». Гарадскія майстры падрабязна распрацоўвалі сюжэтную лінію апавядання, разбіваючы яе на некалькі эпізодаў, якія ілюструюць найбольш важныя моманты з жыцця герояў.



*Тыгр. 1960-я гг.*

Лубок, дзякуючы шырокаму колу сюжэтаў, стаў адной з найбольш актыўных форм захавання ў народнай памяці вялікага багацця міфапаэтычнай і фальклорнай традыцыі В'етнама.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# «Шостая лінія» вяртаецца?

**Адна з першых і найбольш папулярных у Беларусі некамерцыйных галерэй сучаснага мастацтва 1990-х — «Шостая лінія» — пасля перапынку ў 16 гадоў прэзентавала выстаўку і міжнародны форум беларускіх мастакоў «Сума Сумарум».**



Фота Кастуся Дробава

*Андрэй Вераб'ёў. Шматфункцыянальны экзістэнцыйны аб'ект «Месца». 2014 г.*

У праекце, прадстаўленым на дзвюх пляцоўках, — у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва і Цэнтры сучасных мастацтваў — бяруць удзел больш за 20 мастакоў з Беларусі, Расіі, Германіі, Нідэрландаў, Бельгіі, якія ў свой час супрацоўнічалі з галерэяй «Шостая лінія». Аўтары выстаўляюць працы, што раней у Беларусі не дэманстраваліся. Мінскія гледачы маюць унікальную магчымасць не толькі ўбачыць работы творцаў, але і пазнаёміцца з імі асабіста, задаць пытанні ў час лекцый і дыскусій.

Галерэя праіснавала ў Мінску з 1992 па 1998 гг. па вуліцы Якуба Коласа, 14. За шэсць гадоў больш як 60 мастакоў з Беларусі, Германіі, Польшчы, ЗША правялі ў ёй 50 выставак, мастацкіх акцый і перформансаў, якія нязменна прыцягвалі вялікую цікавасць гледачоў і СМІ. «Шостая лінія» была найбуйнейшай пляцоўкай эксперыментальнага мастацтва ў Беларусі, якая ўпершыню прадставіла беларускаму гледачу новыя формы сучасных мастацкіх практык.

— Ідэя выстаўкі нарадзілася з жадання апублікаваць архіў «Шостай лініі», — распавяла куратар праекта «Сума Сумарум», дырэктар «Шостай лініі» Ірына Бігдай. — Асабістыя матэрыялы мастакоў галерэі ўпершыню размешчаны ў адной з самых буйных і папулярных сацыяльных сетак — Facebook. Архіў бесперапынна папаўняецца новымі публікацыямі па беларускім мастацтве 1990-х і заўсёды адкрыты для каментароў. Вынікам праекта «Сума Сумарум» нам хацелася б бачыць «Гісторыю сучаснага беларускага мастацтва 1990-х», а заадно і адказ на пытанне: у якой форме можа існаваць «Шостая лінія» далей?



*Віталь Чарнабрысаў. Аўтапартрэт. 1999 г.*

**Ганна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2273.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 04.12.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4966.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686